ПРОЛЕТАРИИ ВСЕХ СТРАН, СОЕДИНЯЙТЕСЬ!

РСФСР

УССР

ПРОЛЕТАРІ ВСІХ КРАЇН, ЄДНАЙТЕСЯ!

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## і
## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК.

ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



### ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
### РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
### САЮЗУ ССР.

ЦВК
РНК
РПА

№ 4.

АРТЫКУЛЫ
80—113.

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР.
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## і
## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

---

**ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ**
**РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ**
**САЮЗУ ССР**

**№ 4.**

АРТЫКУЛЫ
80—113.

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ⋄ 1923 ⋄ Крэмль.

# ЗЬМЕСТ.

# ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ

ПРЭЗЫДЫУМУ

# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**80. Аб перайначаньні і дапаўненьні дэкрэтаў СНК аб залатой і плацінавай прамысловасьці і аб звароту каштоўных мэталаў, дыямэнтаў і валюты.**

Каб перайначыць і дапоўніць дэкрэт СНК РСФСР аб залатой і плацінавай прамысловасьці ад 31 кастрычніку 1921 г. (Зб. Уз. 1921 г., № 74, арт. 604) і дэкрэт аб звароту золата, плаціны, серабра, дыямэнтаў і замежнае валюты (Зб. Уз. 1922 г., № 28, арт. 318), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць**:

1. Уся шліхавая і губчатая плаціна, якая здабываецца на тэрыторыі Саюзу ССР абвяшчаецца прадметам манаполіі дзяржавы, якая, у асобе яе упаўнаважаных на гэта органаў, адна мае права трымаць гэткую плаціну. Скупаць шліхавую і губчатую плаціну, афініраваць і сплаўляць іх мае выключнае права дзяржава. Хаваць шліхавую і губчатую плаціну пасьля таго, як пройдзе паложаны дзеля здачы яе дзяржаўным установам тэрмін, а гэтак сама перавозіць, перасылаць, купляць, прадаваць і вывазіць за кардон забараняецца усім, за выключэньнем упаўнаважаных на гэтае органаў.

2. Усе установы, арганізацыі і асобы, маючыя у сваім уладаньні шліхавую і губчатую плаціну, павінны здаць яе НКГС або упаўнаважаным ім на гэтае дзяржаўным установам за паложаную узнагараду, устаноўляемую Дзяржаўнаю Плянаваю Камісіяю і зацьверджаемую СПА. Месца і тэрмін здачы вызначаюцца асобнаю інструкцыяю, выдаваемаю НКГС.

3. Прадпрыемствы і асобы, якія здабываюць плаціну, маюць права хаваць і перасылаць яе з выпаўненьнем правілаў, устаноўляемых ВСНГ па згодзе з НКГС.

4. Навуковыя установы і асобныя навуковыя мастакі (спецыялісты), займаючыяся высьледаваньнем гатунку мэталаў плацінавае групы, могуць адтрымліваць ад НКГС, надаўшы наложныя пасьведчаньні ад дзяржаўных навуковых інстытутаў, памянёныя мэталы у шліхавым выглядзе дзеля мэтаў навукова—тэхнічнага высьледаваньня. Як адпушчаць плаціну дзеля гэтых мэтаў вызначаецца асобнаю інструкцыяю, распрацоўваемай ВСНГ і НКГС і зацьверджанай СПА.

5. Вытворчасьць плацінавага промыслу у межах прызначанай дзеля трэсту Уралплаціна тэрыторыі ёсьць манаполія дзяржавы. Рабіць разьведкі і займацца плацінавым промыслам за прызначанай тэрыторыяю дазваляецца на гэткіх самых умовах, як і залатым промыслам, з выняткамі вынікаючымі з манаполіі дзяржавы на шліхавую плаціну, згодна п.п. 1, 2 і 3 гэтае пастановы.

6. Ажыцьцяўленьне дзяржаўнае плацінавае манаполіі робіцца установамі ВСНГ—з боку дабычы, афініраваньня, зьліваньня і вызначэньня пробы зьліткаў, і установамі НКГС—з боку скуплі і рэалізацыі плаціны.

7. Плацінавыя зьліткі і па магчымасьці плацінавыя паўфабрыкаты і вырабы павінны мець вызначанае кляймо, пробу і сортыфікат, паказваючы чыстату мэталу, а дзеля сплаваў % складаючых часьцей. Парадак, як накладваць кляймы, вызначэньне пробы устаноўліваецца асобнаю інструкцыяю, выдаемаю НКГС па згодзе з ВСНГ.

8. Уся плацінавая прадукцыя ВСНГ, як зьліткі, пласты, дрот і вырабы з чыстае плаціны, альбо ходзячаяся у зьлітку яе з другімі мэталамі плацінавае групы, здаецца НКГС па каштоўнасьці, вызначаемай у парадку каштарысу з захаваньнем арт. 8 дэкрэту СНК РСФСР ад 6 сакавіка 1923 г.

9. Асобам, маючым права рабіць вырабы з каштоўных мэталаў, дазваляецца вырабляць і плацінавыя вырабы устаноўленае законам пробы з захаваньнем правілаў становішча аб назіраньні за пробаю.

10. Гэтая постанова датычыцца у аднолькавай меры і да ўсіх іншых мэталаў плацінавае групы, іх злучэньням і зьліткам.

11. За невыпаўненьне гэтае пастановы вінаватыя аддаюцца пад кару, згодна арт. арт. 97 і 139 Угалоўнага Кодэксу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Рэспублікавана у № 172 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 2 жніуня 1923 г.

27 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 81. Аб урэгуліраваньні грашовага звароту на тэрыторыі Далека-Усходняй краіны.

У мэтах урэгуліраваньня грашовага звароту на тэрыторыі Далёка-Усходняе краіны, ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Дзеля выплаты дзяржаўных і мясцовых падаткаў і збораў, мытных і іншых мытаў і чыгуначных тарыфаў на тэрыторыі савецкага Далёкага Усходу прыймаюцца савецкія грашовыя знакі РСФСР па афіцыяльнаму курсу на золата.

2. Дзяржаўныя, камунальныя і коопэратыўныя установы і прадпрыемствы прыймаюць па ўсім выплатам савецкія грашовыя знакі РСФСР па афіцыяльнаму курсу на золата.

3. Прыём дзяржаўнымі, камунальнымі і коопэратыўнымі установамі і прадпрыемствамі сярэбранай, банкавай і разьменнай манэты робіцца, ў ва ўсе выплаты па афіцыяльнаму курсу на золата.

4. Банкноты Дзяржаўнага Банку Саюзу ССР прыймаюцца дзеля выплаты усіх дзяржаўных і мясцовых падаткаў і збораў, мытных і іншых пошлінаў і чыгуначных тарыфаў, а таксама па ўсім выплатам камунальных установаў і прадпрыемстваў на тэрыторыі Далёкага Ускоду па залатому номіналу.

5. Дзяржаўным і камунальным прадпрыемствам і установам і коопэратывам забараняецца рабіць і прыймаць выплаты чужаземнай валютай, за выключэньнем выпадкаў, калі робяцца зьдзелкі з прадпрыемствамі, якія знаходзяцца закардонам.

6. Афіцыяльныя курсы, памянёныя у папярэдніх артыкулах гэтага дэкрэту, на тэрыторыі Далёкаусходняй краіны установіваюцца адмысловай котыравальнай камісіяй пры упаўнаркоме грашовых справаў савецкага Далёкага Усходу ў суналежнасьці з фондавай котыроўкай.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Рэспублікавана у № 176 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 8 жніуня 1923 г.

3 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 82. Аб перайначаньні рэдакцыі арт. II дэкрэту аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку.

Каб. зьмяніць арт. II дэкрэтаў УЦВК і СНК РСФСР і УУЦВК і СНК УССР аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку, ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Выкласьці арт. II паказаных дэкрэтаў у наступнай рэдакцыі:

„Эквіваленты замены аднаго пуду жыта або пшаніцы іншымі прадуктамі устанаўліваюцца народным камісарыятам харчаваньня, наркомгрошовых справаў і ЦСУ Саюзу ССР не пазьней 15 жніўня".

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Рэспублікавана у № 176 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 8 жніуня 1923 г.

3 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 83. Аб сьвяткаваньні дню ухваленьня Констытуцы Саюзу ССР.

Дзеля выкананьня пастановы 1-га З'езду Саветаў Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дзень ухваленьня аснаўнога закону (Констытуцыі) Саюзу ССР—шостага ліпеня—прызнаць днём сьвяточным па усей тэрыторыі Саюзу ССР.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Рэспублікавана у № 176 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 8 жніуня 1923 г.

3 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 84. Аб урэгуліраваньні грашовых узаемаадносінаў паміж РСФСР і Карэліяй на 1923—24 бюджэтны год.

У мэтах разьвіцьця эканамічнага і культурнага жыцьця аўтаномнай Карэльскай ССР і выходзячы з пастановы СНК РСФСР ад 26 красавіка 1921 г., ад 27 красавіка 1922 г. і 2 лютага 1923 г., згодна якім усе даходныя рэсурсы, адтрымліваемыя на тэрыторыі Карэліі паступаюць у яе сродкі, да 1 студзеня 1924 г., ЦВК і СНК Саюзу ССР дзеля урэгуліраваньня грашовых узаемаадносінаў паміж РСФСР і Карэліяй на 1923—24 бюджэтны год, **пастанаўляюць:**

1. Бюджэт аўтаномнай Карэльскай ССР з наступнага 1923—24 бюджэтнага году ўключыць у агульны бюджэт РСФСР, як у даходнай, так і ў расходнай яго часцы, прычым у агульны росьпіс РСФСР гэты бюджэт увалодзіць асобнымі нумэрамі.

2. Расходы па камісарыятам і асобным установам, прызнаваемым агульнасаюзнымі як камісарыяты: вайсковы, марскі, замежнага гандлю, замежных справаў, шляхаў зносін і почт і тэлеграфаў, а таксама установы галоўнага санытарнага упраўленьня і дзяржаўнага палітычнага упраўленьня у бюджэт аўтаномнай Карэльскай ССР ня ўключаць.

3. Выдаткі па ўсім іншым камісарыятам разглядаюцца па бюджэту аўтаномнай Карэльскай ССР.

4. Прыбыткі па народным камісарыятам: шляхаў зносін і почт і тэлеграфаў, залежна ад асобных варункаў выдаткаваньня па ім ідуць цалкам у сродкі Саюзу ССР.

5. Дзеля разьвіцьця п. 5 пастановы СНК Саюзу ССР ад 26/IV—21 г. аб удзеле Карэліі з 1924 г. у агульнадзяржаўных выдатках, аўтаномная Карэльская ССР на падставе папярэдняй згоды паміж Карэльскай ССР і РСФСР перадае Саюзу ССР дзеля мэты пакрыцьця падаючых на яе долю агульнасаюзных выдаткаў вядомую частку іншых сваіх прыбыткаў; самая ж вялічыня гэтага адлічэньня канчаткова зацьверджаецца ЦВК-ам Саюзу ССР.

6. Чысты прыбытак, які йдзе з лясных плошчаў і нетраў зямлі, згодна пастановы СПА ад 25/V—23 г. аб калёнізацыі Карэльска-Мурманскага краю, перадаваемай аўт. Карэльскай ССР дзеля субсыдзіраваньня Мурманскай чыгункі, тэрмінам на 10 гадоў,—залічываецца у рахунак долі прыбыткаў, перадаваемых рэспублікай Саюзу на пакрыцьце агульнасаюзных выдаткаў (п. 5 гэтае пастановы).

7. Камісіі па разьлікам паміж Карэліяй і РСФСР пры Нарком грашовых справаў даручыць у тэрміновым парадку зрабіць разьлік за прайшоўшы час і устанавіць далейшы парадак разьлікаў паміж аўтаномнай Карэльскай ССР і РСФСР па плянавым заданьням, якія будуць выпаўняцца Карэліяй.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

3 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 85. Аб прымяненьні у будаўніцтве узброеных сілаў Саюзу ССР міліцыйных асноваў.

З часу рэвалюцыі у кастрычніку (октябре) савецкая рэспубліка ужо многа раз абвяшчала аб сваіх мірных намерах і не адзін раз прапанавала іншым дзяржавам прыступіць да скарачэньня ўзброеньняў.

Хоць гэта прапанова і не адтрымала да цяперашняга часу здавальняючага разьвязаньня, тым ня меньш савецкі ўрад няўхільна ідзе да агульнага духу сваей мірнай палітыкі, якая ў пытаньню утварэньня ўзброеных сілаў імкнецца па магчымасьці бліжэй падыйсьці да такой сыстэмы іх арганізацыі, каб як мага меньш адрываць працуючых ад іх вытворчай працы.

Дзеля моцы выкладзеннага ЦВК і СНК Саюзу ССР прызналі сваечасовым накіраваць будаваньне узброеных сілаў Саюзу ССР на шлях прымяненьня міліцыйных пачаткаў, што ў цяперашні час выказываецца як у утварэньні, радам з істнуючымі кадравымі часткамі, фарміраваньняў на тэрыторыяльных пачатках, так і ў правядзеньні вайсковай падгатоўкі працуючых.

Тэрыторыяльныя фарміраваньні павінны быць у поўнай баявой гатоўнасьці нараўне з кадравымі часткамі чырвонай арміі: кожны, які уваходзіць у іх, рабочы і селянін павінен асьвядоміць сваю належнасьць да адзінай чырвонай арміі, а абучаючыяся вайсковай справе працуючыя павінны быць спадзейным рэзэрвам, гатовым у любую хвіліну стаць пад чырвоны сьцяг на абарону Саюзу ССР.

У мэтах ажыцьцяўленьня міліцыйных пачаткаў ў будаваньні узброеных сілаў рэспублікі ЦВК і СНК **пастанаўляюць:**

### А. Арганізацыя тэрыторыяльных вайсковых частка ў і прахаджаньне службы ў іх.

1. Лік і склад частка ў, фарміруемых на тэрыторыяльных пачатках, і раёны іх фарміраваньня устанаўліваюцца рэвалюцыйным вайсковым саветам Саюзу ССР.

2. Фарміруемыя на паказанных пачатках часткі састаяць з кадру (пастаяны склад) і пераменнага складу.

3. Тэрмін залічэньня у пераменным складзе устанаўліваецца чатырохгадовы.

> Увага. Рэвалюцыйнаму вайсковаму савету Саюзу ССР, з зацьверджаньня Савету Працы і Абароны даецца права адступленьня ад нормы, паказанай у гэтым артыкулу, у залежнасьці ад мясцовых умоваў і асаблівасьцей праходжаньня службы у асобных родах войскаў.

4. Кадр (пастаяны склад) частка ў, фарміруемых на тэрыторыяльных пачатках, праходзіць вайсковую службу на тых жа падставах, як і склад пастаянай арміі.

5. Пераменны склад папаўняецца вайсковаабавязанымі, пачынаючы з наступнага за прызыўным узросту.

> Увага. У год, які папераджае залічэньне у пераменны склад, падлягаючыя залічэньню у яго вайсковаабавязанныя абавязкова праходзяць 3-х месячны падгатоўны перыод вонкавайсковым парадкам, без праходжаньня якога ня могуць быць залічаны у пераменны склад.

6. Парадак вызначэньня катэгорыяў грамадзян, падлягаючых залічэньню у тэрыторыяльнае войска, устанаўліваецца рэволюцыйным вайсковым саветам Саюзу ССР і зацьверджаецца Саветам Працы і Абароны.

> Увага. Залічэньню у тэрыторыяльныя часткі не падлягаюць рабочыя і служачыя, звальняемыя ад прызыву ў армію па мабілізацыі.

7. Вайсковаабавязаныя грамадзяне, залічаныя у пераменны склад тэрыторыяльных частка ў, павінуюцца правілам праходжаньня службы, устанаўліваемым для гэтых частка ў, і, часткаю, павінны выпаўняць правілы устанаўліваемага для іх асобнага учоту, зьяўляцца па вымаганьню належных вайсковых органаў дзеля мэдыцынскага агляданьня, абучэньня, для прахаджэньня рознага роду збораў і г. д.

У час збораў і наогул знаходжэньня у часцы пераменны склад павінуецца усім вайсковым законам нараўне з лічучыміся на сапраўднай вайсковай службе.

8. Пэрыоды і тэрміны прызываў пераменнага складу дзеля абучэньня і іншых мэтаў вызначаюцца рэвалюцыйным вайсковым саветам Саюзу ССР, выходзячы, перш-на-перш, з памеркаваньня плянамернага правядзеньня абучэньня, а таксама прыймаючы пад увагу мясцовыя варункі працоўнай дзеяльнасьці абучаемых, прычым агульны працяг збораў за ўсе чатыры гады лічэньня у пераменным складзе не павінен перавышаць пяці месяцаў, а ў кожным асобным годзе—ня больш двух месяцаў.

9. Вайсковаабавязаныя грамадзяне, лічучыяся у пераменным складзе, захоўваюць за сабой у час абучэньня і збораў сваю пасаду па месту службы або працы.

10. Усе прадпрыемствы і установы, у якіх працуюць грамадзяне, лічучыяся у пераменным складзе, з наступленьнем тэрміну абучэньня або збораў абавязаны хутка звальняць такіх асобаў ад працы, або заняткаў на тэрміны, устаноўленыя дзеля абучэньня або збораў.

11. Ніхто з грамадзян, лічучыхся у пераменным складзе (составе), ня мае права адлучацца з райёну камплектаваньня сваей часткі без дазволу падлягаючага вайсковага начальства.

Грамадзяне, якія лічуцца у пераменным складзе (составе) і не прайшоўшыя устаноўленных у належнасьці з арт. 8 тэрмінаў вайсковага абучэньня, у выпадку перамены жыхарства, зьвязанай з выбыцьцем з райёну сваей дывізіі, лічуцца не прахадзіўшымі вайсковай службы і падлягаць прызыву у пастаянае войска на агульных падставах.

Точныя правілы, вызначаючыя парадак перасуваньняў грамадзян, лічучыхся ў пераменным складзе (составе), устанаўляюцца рэвалюцыйным вайсковым саветам Саюзу ССР і зацьверджаюцца Саветам Працы і Абароны.

12. Грамадзяне, якія адбылі тэрмін службы у пераменным складзе, пералічываюцца у запас, паступаюць на агульны учот вайсковаабавязанных і ў вайсковы час скарыстоўваюцца дзеля камплектаваньня, як частак, фарміруемых на міліцыйных пачаткаў, гэтак і іншых частак чырвонай арміі.

13. Пры залічэньні у пераменны склад грамадзян, прайшоўшых сапраўдную вайсковую службу ў радох пастаянай арміі, тэрмін прабываньня ў запасе гэткім грамадзянам скарачаецца на год лічэньня у пераменным складзе.

14. У час збораў вайсковым парадкам пераменны склад тэрыторыяльных частак здавальняецца усякімі выгадамі нараўне з вайскаваслужачымі, адбываючымі сапраўдную службу у шэрага пастаяннай арміі.

15. У вольны ад абучэньня і збораў час пераменны склад мае права насіць устаноўленую форму сваей часткі, вырабляемую ўласнымі клопатамі.

16. Пры абвесцы мабілізацыі з наступам вайсковых абставін прадпрыемствы і установы павінны у карацейшы тэрмін, устанаўлямы вайсковым ведамствам, звольніць грамадзян, якія лічуцца у пераменным складзе, ад працы або службы і ў той жа тэрмін зрабіць з імі поўнае разлічэньне.

17. Вайсковаабавязныя, лічучыяся у пераменным складзе тэрыторыяльных частхаў, за невыкананьне арт. 7 гэтае пастановы, а таксама за ухіленьне ад яўкі у частку пры мабілізацыі, падлягаюць адпаведнасьці па арт. арт. 81—81-д карнага кодэксу.

18. На падставе гэтай пастановы рэвалюцыйнаму вайсковаму савету Саюзу ССР даручаецца распрацаваць належнае палажэньне аб службе у частках, фарміруемых на пачатках тэрыторыяльнага камплектаваньня, а таксама правіла учоту грамадзян пераменага складу гэтых частак.

### Б. Правядзеньне вайсковай падгатоўкі працуючых.

19. Рэвалюцыйнаму вайсковаму савету Саюзу ССР даецца права у парадку, устанаўляемым дзеючымі законапалажэньнямі прымушаць да абавязковай вайсковай падгатоўкі грамадзян, пачынаючы з таго году, да першага студзеня якога ім споўніцца 16 гадоў ад роду, у працягу усяго часу лічэньня іх на учоце вайсковаабавязных.

20. Вайсковая падгатоўка ажыцьцяўляецца па догляду рэвалюцыйнага вайсковага савету Саюзу ССР як у парадку вонкахвайсковага абучэньня, так і ў парадку кароткатэрміновых збораў пры частках чырвонай арміі і флёту.

21. Грамадзяне ў узросьце 16—18 гадоў падлягаюць перш усяго падгатоўцы, якая заключаецца пераважна ў фізычным і элементарным вайсковым выхаваньні моладзі, і праводзіцца агульным кіраўніцтвам і доглядам вайсковага ведамству сіламі і сродкамі грамадзянскіх арганізацыяў. У працягу паказанага пэрыоду вайсковаму ведамству даецца права прымушаць моладзь да абавязковых вонкавайсковых заняткаў на тэрмін, не перавышаючы у агульнай складнасьці 4-х тыдняў або 160 гадзін.

22. Пачынаючы з 19-ці гадовага узросту і да году прызыву грамадзяне падлягаюць праходжэньню курсу вайсковай дапрызыўнай падгатоўкі, агульным працягам ня звыш 10-ці тыдняў і кожны раз на тэрмін ня больш 4-х тыдняў.

23. Грамадзяне, дасягшыя прызыўнага узросту, але не праходзячыя сапраўднай вайсковай службы у шэрагах чырвонай арміі і флёту, а роўна і грамадзяне старэйшых узростаў, ня адтрымаўшыя па якім-небудзь прычынам вайсковай падготоўкі, падлягаюць вайсковаму абучэньню у працягу 5-ці гадовага пэрыоду, з абавязковым прымусам іх за гэты час, па погляду рэвалюцыйнага вайсковага савету Саюзу ССР, на агульны тэрмін да 8-мі месяцаў, і ў кожным асобным годзе—на тэрмін, ня больш 2-х месяцаў.

24. Грамадзяне, лічучыяся ў запасе чырвонай арміі і чырвонага флёту належаць паўторнаму абучэньню з прымусам іх за час знахаджэньня на ўчоту вайсковага ведамству ня больш 3-х раз і на тэрмін ня звыш аднаго месяцу дзеля кожнага поўторнага збору.

25. Дзеля ўсіх паказаных у папярэдніх пунктах катэгорыяў грамадзян тэрмін вонкавайсковага обучэньня і працяг падгатоўкі ў войску устанаўляецца рэвалюцыйным вайсковым саветам Саюзу ССР.

> Увага. Грамадзяне, якія праходзяць вайсковую падгатоўку вонкавайсковым парадкам, не знаходзяцца на дзяржаўным снабжэньні не адтрымліваюць за гэта ніякае вознагароды, тыя ж, якія праходзяць абучэньне пры войску—залічаюцца на час збору на дзяржаўнае утрыманьне.

26. У час, калі праходзяць вайсковую падгатоўку як вонкавайсковым парадкам, так і ў складзе вайсковых частак, грамадзяне выпаўняюць абавязкі і нясуць адпаведнасьць нараўне з вайсковаслужачымі.

27. Рэвалюцыйнаму вайсковаму савету Саюзу ССР даецца права працягненьня тэрміну абучэньня тым з праходзячых вайсковую падгатоўку грамадзянам, якія

пры канчатковай паверцы вынікаў абучэньня, знойдуць нездавальняючыя пасьпехі, але не далей тэрмінаў служ-бы, установленых дзеля пастаяннага войску.

28. Парадак прыцягненьня да адпаведнасьці грамадзян 16—18 гадоў ухіляючыхся ад падгатоўкі (арт. 21) устанаўляецца асобым палажэньнем.

Грамадзяне старэйшых узростаў, ухіляючыяся ад вайсковай падгатоўкі прыцягіваюцца да адпаведнасьці на агульных падставах, у парадку арт. арт. 81—81—карнага кодэксу.

29. Вайсковае абучэньне грамадзян, паказаных у арт. арт. 22, 23 і 24 гэтага дэкрэту, выпаўняецца камандным складам чырвонай арміі і флёту, у дапамогу якому, ў выпадку патрэбнасьці, могуць быць прыцягіваемы асобы каманднага складу, лічучыяся ў запасе арміі і флёту на падставе адумыслова установленых дзеля гэтага правілаў.

30. Грамадзяне, лічучыяся на службе як у дзяржаўных, так і ў прыватных установах і прадпрыемствах, зьберагаюць за час прахаджэньня імі обучэньня усе утрыманьне, прысвоенае ім па месцу службы і занімаемым пасадам.

31. Грамадзянам пасьпешна прайшоўшым вайсковую падгатоўку, а роўна лічучымся у запасе асобам каманднага складу, прыцягіваемым да вайсковага абучэньня, могуць быць вайсковым ведамствам даваемы льготы, як у выпадку прызыву іх на службу у рады чырвонай арміі і флёту так роўна і ў выпадку прыцягненьня іх да паўторных збораў.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Распублікавана у № 176 „Известий „ЦВК Саюзу ССР ад 9 жніўня 1923 г.

8-га жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 86. Аб амністыі у адзнаку утварэньня Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

У адзнаку утварэньня Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, зацьвердзіўшага падставы братэрскага супрацоўніцтва народаў Саюзу, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР, імкнучыся вярнуць да мірнага будаваньня тақсама і тых рабочых і сялян, якія хоць і зрабілі шкоду рэспубліцы але свае дзеяньні зрабілі у першы раз па несьвядомасьці выпадкова або пад націскам цяжкіх матэрыяльных умоваў, **пастанаўляе:**

1. Зволіць ад далейшага трыманьня пад вартай або скараціць тэрміны заключэньня ніжэйнаступным катэгорыям асуджаных:

а) рабочых і сялян, асуджаных у першы раз у працягу другой паловы 1921 году і першай паловы 1922 году за злачынствы, зробленыя па цяжкому матэрыяльнаму становішчу;

б) інвалідаў чырвонай арміі і флёту, чырвонаармейцаў, военмораў і ўсіх іншых вайскова-служачых чырвонай арміі і флёту, зрабіўшых злачынствы у зьвязку з дэмабілізацыяй і безрабоціцаю пад уплывам голаду і нуды;

в) дэзэртыраў арміі і флёту, асуджаных да 1-га студзеня 1923 году;

г) чырвонаармейцаў, асуджаных да 1-га траўня 1923 году за невыкананьне статуту караульнай службы і дробныя вайсковыя злачынствы;

д) рабочых і сялян, асуджаных у адміністратыўным парадку да 1-га чэрвеня 1922 году, за удзел у руху проціў савецкай ўлады, уцягненых па сваей несьвядомасьці і не зьяўляўшыхся ініцыатарамі, арганізатарамі і актыўнымі кіраўнікамі;

е) грамадзян, асуджаных за нелегальны пераход мяжы, калі няма падставы дзеля западозрэньня іх у сур'ёзных угалоўных або іншых злачынствах (шпіёнаж, кантрабанда; г. д.).

Увага. Наркамюст разам з НКУС могуць выдаваць цыркулярнае вытлумачэньне аб правох пражываньня грамадзян на тэрыторыі Саюзу ССР, зволеных па гэтаму пункту.

ж) многасямейных ніжэйшых чыгуначных служачых з рабочых і сялян (стрэлачнікі, сцэпшчыкі вагонаў, праваднікі і інш.) асуджаных за злачынствы ў маемасьці у першы раз, у асаблівасьці пасьля некалькіх гадоў добрасумленай службы на чыгунцы;

з) асуджаных за дробныя праступкі па службе ніжэйшых служачых адміністратыўных арганаў, калі іх праступкі ня мелі сур'ёзныхў вынікаў;

і) асуджаных па справам аб вынятках царкоўных каштоўнасьцяў, калі названыя асобы не зьяўляліся арганізатарамі, кіраўнікамі і не рабілі актыўнай спрэчкі.

II) Пашырыць на ўсю тэрыторыю Саюзу ССР дзейнасьць пастановы Прэзыдыуму УЦВК аб прымяненьні датэрміновага звальненьня да асуджаных за злачынствы, прадугаданыя арт. арт. 140 і 140-а Угалоўнага кодэксу) прыгатаўленьне і збыт сьпіртовых напіткаў), абвешчанага у „Известиях ЦИК-а Союза ССР" ад 24-га ліпеня 1923 году за № 164.

III) Зволіць ад далейшага трыманьня пад вартаю тых асуджаных рабочых і сялян, якія больш месяцу ня мелі свабоды і ў адносінах якіх па прыгаварам кара прызначана у 6 месяцаў лішэньня свабоды па арт. арт. угалоўнага кодэксу, караючым лішэньнем свабоды на 6 месяцаў, ня ніжэй 6-ці месяцаў і да 1-га году і калі вызначаная прыгаварам кара зьяўляецца мінімальным з прадугаданых суналежным арт. караў.

IV) Даручыць пракурорам і судзебным органам спыніць справы, знаходзячыяся у стадыі папярэдняга следства і ў вядзеньні судоў, калі азначаныя справы па свайму характару і па цяжару кары падыходзяць пад катэгорыі вышэйпералічаных злачынстваў.

V) Правядзеньне у жыцьцё гэтае пастановы ускласьці на камісіі пры губэрскіх выканаўчых камітэтах з прадстаўнікоў пракурорскага дагляду, губэрскіх судоў і губэрскіх выканаўчых камітэтаў, якім разглядзець справы асобаў, паказаных у гэтай пастанове.

VI. Дзейнасьць гэтай пастановы пашырыць на усіх асуджаных да яго апублікаваньня.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Распублікавана у № 184 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 18 жніўня 1923 г.

17 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 87. Палажэньне аб першай сельска-гаспадарчай і кустарна-прамысловай выстаўцы Саюзу ССР.

Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР **пастанаўляе**:

1. З'арганізаваную, згодна дэкрэту ЦВК РСФСР ад 19-га кастрычніка 1922 г., ўсерасейскую сельска-гаспадарчую выстаўку прызнаць першай сельска-гаспадарчай і курстарна-прамысловай выстаўкай Саюзу ССР.

2. Прыняць удзел у першай сельска-гаспадарчай і кустарна-прамысловай выстаўцы прыцягнуць усе саюзныя, а гэтак сама і аўтаномныя рэспублікі і аўтаномныя краіны РСФСР, дзяржаўныя і грамадзянскія установы і прадпрыемствы, колектыўныя і прыватныя гаспадаркі і вытворчасьці. У замежным жа аддзеле дазволіць удзел замежных установаў і прадпрыемстваў на падставе особных пастановаў.

3. Агульнае кіраўніцтва справаю пабудаваньня і упраўленьня выстаўкаю ўзлажыць на НКЗ РСФСР, які з'яўляецца адпаведным па справам выстаўкі перад СНК Саюзу ССР і Прэзыдыумам ЦВК Саюзу ССР.

4. Непасрэднае упраўленьне выстаўкаю ўзлажыць на галоўны выставачны камітэт па упраўленьню выстаўкаю (глаўвыстком), ад імя якога у асобе яго старшыні вядзецца упраўленьне выстаўкаю.

5. Галоўнаму выставачнаму камітэту даручаецца ліквідацыя справаў, зьвязаных з будоўляю і падрыхтоўкаю выстаўкі, упраўленьню гаспадаркаю і эксплёатыцыяю выстаўкі, а гэтак сама ліквидацыя і складаньне справаздачы па выстаўцы.

6) Галоўны камітэт па упраўленьню выстаўкаю устанавіць у складзе старшыні і сяброў, зацьверджваемых Прэзыдыумам ЦВК Саюзу ССР, аб якіх падае наркамзем РСФСР. На сяброў камітэту ўзлажыць загадываньне суналежнымі аддзеламі або асобнымі часьцінамі выстаўкі.

7. Галоўнаму камітэту па упраўленьню выстаўкаю Саюзу ССР передаць правы і абавязкі галоўнаму выставачнаму камітэту, устаноўленага згодна дэкрэту УЦВК ад 19-га кастрычніка 1922 году разам з усімі справамі і маемасьцю і усім актывам і пасівам выстаўкі.

8. Апарат галоўнага выставачнага камітэту арганізаваць па наступным аддзелам:

1) Адміністратыўны,
2) Адзел гаспадаркі выстаўкі,
3) Камэрцыйна—грашовы,
4) Культурна-асьветны,
5) Замежны,
6) Экспанатны.

9. Дзеля выкананьня і развіцьця гэтага палажэньня даручыць наркамзему РСФСР распрацаваць і выдаць суналежную інструкцыю.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Рaспублікавана у № 185 „Известий“ ЦВКСаюзу ССР ад 19 жніўня 1923 г.

17 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 88. Аб льготах бяднейшаму сялянству па адбудаваньню яго гаспадаркі.

Рабоча-сялянскі Урад сваім апошнім мерапрыемствам упросьціў і аб'яднаў падаткавое абкладаньне сялянства, даў льготы па выплаце падаткаў старэнным гаспадарам, злажыў і адсрочыў выплату насеннае суды за рад прайшоўшых гадоў. Усе гэтыя меры маюць адну і тую ж агульную мэту: палягчэньне сялянству гаспадараньня на зямлі, разьвіцьце і умацаваньне сельскай гаспадаркі саюзных рэспублік. Ахвяры і наўзгоды, звязаныя з вайною і няўродаю мінулых гадоў, асабліво цяжка адбіліся на бяднейшых колах сялянства. Адбудаваньне і умацаваньне гаспадарак дзеля іх наібольш цяжка.

У мэтах далейшага палягчэньня бяднейшаму сялянству памагчымасьці хутчэй адбудаваць гаспадарку. ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць** даць наступныя дадатковыя льготы:

1. Зволіць ад платы адзінага с.-г. падатку ўсе гаспадаркі, як аднаасобавыя, гэтак і колектыўныя, ня маючыя ската, калі абкладваемае зямлі у гэтых гаспадарках прыпадае ня болей, як тры чвэрткі дзесяціны на ядуна.

2. Зваліць ад падатку гэтак сама і другія групы гаспадарак з найболей нямоцных адносна забясьпечаньня зямлёю або скатом, у межах пяці процэнтнае скідкі з падатку, прыпадаючага на рэспубліку, губэрню або краіну, лічучы у тым ліку і скідку гаспадаркам, ня маючым ската, па п. 1 гэтае пастановы.

3. Катэгорыі або групы гаспадарак, падлеглыя звальненью, ад платы падатку у парадку арт. 2-га гэтае пастановы, вызначаюцца губэрскім выканаўчым камітэтам (краіннымі выканаўч. камітэтамі) і зараз жа па тэлеграфу перадаюцца нарком грашовых справаў і наркампроду Саюзу ССР.

4. Зьлічво (сумма) зьнімаемага падатку, належачага з гаспадарак, аслабаняемых ад платы яго, згодна п. 1 і 2 гэтае пастановы, не павінна перавышаць 5% падатку, прыпадаючага на рэспубліку, губэрню або краіну цалкам.

> Увага: ЦВК-ы і саўнаркомы саюзных рэспублік абавязуюцца выдаць загад аб унясеньні у лік памяненных льготаў усіх асобных льготаў, вызначаных імі раней у тым выпадку, калі гэтыя льготы не прадугаданы агульна саюзнымі дэкрэтамі і пастановамі.

5. Гаспадаркі, на якія распаўсюджваецца дзейнасьць гэтае пастановы, звальняюцца ад сельска-гаспадарчага падатку аўтаматычна, без асобных хадатайстваў аб тым з іх боку.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Рaспублікавана у № 191 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 26 жніўня 1923 г.

24 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Народных Камісараў
## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

### 89. Аб заходах змаганьня з праказай.

Дзеля мэты пляновага змаганьня з праказай, Савет Народных Камісараў **пастанавіў:**

1. Даручыць Народным Камісарыятам Аховы здароў'я вядзеньне пэўнага учоту ўсіх хворых праказай і клопат аб абавязковай ізоляцыі хворых, якія выяўляюць пагрозу для насельніцтва, ў лепрозорыях або ў хаце пры умовах, цалкам абараняючых ад пагрозы пашырэньня заразы.

2. Залічыць утрыманьне лепрозорыяў у каштарысы Народнага Камісарыяту Аховы Здароў'я.

3. Для падачы магчымасьці ўсім працаздольным хворым, якія ўтрымоуваюцца ў лепрозорыях, весьці, працоўны склад жыцьця і для выстарчаючай ізоляцыі лепрозорыяў ад вакольнага насельніцтва, абавязаць Народныя Камісарыяты Аховы Здароў'я забясьпечыць усе лепрозорыі парадкам пастановаў зямельнага Кодэксу аб адбіўцы зямель дзяржаўным установам,—патрэбнымі вучасткамі ворных, сенажатных, лясных зямель і інш. маемасьцямі.

4. Асобы, якія маюць права на падставе чыннага законадаўства на забясьпеку ў выпадку інваліднасьці, пры хваробе праказай, належаць гэткаму ў парадку социяльнага страхаваньня ці социяльнае забясьпекі (водлуг належнасьці), незалежна ад залічэньня іх у лепрозоры.

На Народныя Камісарыяты Социяльнае Забясьпекі ускладаецца прыняцьце заходаў да забясьпячэньня непрацаздольных сяброў сямьі іншых хворых праказай, залічаных у лепрозорыі, калі памянёныя сябры сямьі знаходзіліся на ўтрыманьні хворага и ня маюць іншых сродкаў да істанаваньня.

5. НКШЗ разам з НКАЗ РСФСР агаласіць інструкцыю аб прывілейным правозе хворых праказай і ўмовах іх перавозкі.

6. Народному Камісарыяту Замежных Спраў разам з Народным Камісарыятам Аховы Здароў'я і Народным Камісарыятам Унутраных Спраў зрабіць заходы дзеля змаганьня з прыездам з-за межаў хворых праказай і да заключэньня з належнымі чужаземнымі дзяржавамі ўмоваў аб сумежным змаганьні з разпаўсюджаньнем праказы.

*Нам. Старшыні СКН Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 193 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 29 жніуня 1923 г.

10 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

### 90. Аб пашырэньні мытнага тарыфу на Далёка-Усходнюю Краіну.

Савет Народных Камісараў **пастанавіў:**

1. Пашырыць на Д.-У. Краіну мытны тарыф па зэўропійскаму ўвознаму гандлю (Зб. Уз. 1922 г., арт. 259 Дадатак)с зробленымі да яго папраўкамі, згодна пастановы СНК ад 6 чэрвеня, 7 ліпеня, 4, 9, 10 і 16 жніўня, 15 верасьня, 20 кастрычніка, 8 і 10 лістападу 1922 г. і 9 студзеня 1923 г. (Зб. Уз. 1922 г., арт. арт. 460, 553, 633, 639, 647, 660, 755, 860, 914, 941; Зб. Уз. 1923 г., арт. 37) з памяненымі у арт. 2-м перайначаньнямі.

2. Устанавіць дзеля прывожваемых у Д.-У. Краіну з-закардону тавараў, названых у ніжэй пералічаных падзелах мытнага тарыфу (арт. 1) мытныя стаўкі:

| Подзелы мытнага тарыфу. | Назвы товару. | Мыта. Руб. | Кап. |
|---|---|---|---|
| Арт. 1 п. 2 | Бульба, з пуду брутто . . | — | 5 |
| „ 3 „ 1 | Мука (акрамя бульбяное), з пуду брутто . . . . . | — | 60 |
| „ 13 „ 1 | Соя, прывожваемая у бочках, бочэчках, бляшанках і іншай вялізнай укуцорцы, агульнаю вагаю з тараю—10 фунтаў і больш, з пуду брутто . . . . | 2 | 50 |
| „ 20 „ 2 | Гарбата: | | |
| | а) ўсялякая, акрамя у цэглінах і у плітках, з пуду | 24 | — |
| | б) у цэглінах зяленая, з пуду | 6 | — |
| | в) у цаглінах чорная, з пуду | 9 | — |
| | г) у плітках, з пуду . . . | 16 | — |
| „ 33 | Соль усялякая павараная: | | |
| „ 1 | а) прывожваемая морам і посуху, акрамя памяненае у п. 3 гэтага (33) артыкулу, з пуду . . . . . | — | 15 |
| | Ўвага: Соль, прызначаная каб саліць рыбы, прапускаецца па асобым пасведчаньням НКЗГ, якія выдаюцца па згодзе з НКФ з пуду . . . . . . . | — | 2 |
| Арт. 36 | Масла кароўе і авечча . . | безм | ытна |
| з арт. 39 | Макухі (жмыхі): | | |
| п. 1 | а) прывожаемыя праз манжурскую мытніцу, з пуду брутто . . . . . . . | — | 15 |
| „ арт. 58 п. 1 | Лесны тавар простых пародаў: . . . . . . . | | |
| | а) у бярвеньнях, камлях, кругляках, жордках, паленьнях, чурбанах (чурках), у фашыне і трэсках (щепе), а гэтак сама дровы і гальле . . . . | безм | ытна |
| з арт. 62 п. 1 | Сэна ў ва ўсякім выглядзе і салома не перабраная (неочышчаная) . . . . | безм | ытна |
| арт. 71 | Шліхавальныя і паліравальныя матарьялы і вырабы з іх: графіт, вырабы з вугля дзеля электрычная тэхнікі: | | |
| | 1) наждак, корунд і трэпел кускамі . . . . . . . | безм | ытна |
| | 2) карбарунд і ўсялкія іншыя штучныя шліхавальныя матарьялы кускамі; графіт кускамі . . | безм | ытна |
| | 3) памяненыя у п. п. 1 і 2 гэтага (71) артыкулу матарьялы, а гэтак сама граніты, моланыя, тоўчаныя або інакш зьмельчаныя, зляжаўшыяся або перарobленыя у камы . | безм | ытна |
| | 4) Усякія шліхавальныя і паліравальныя шкуркі, хоць бы, у выглядзе цэлае (неперарванай) йстужкі: | | |
| | а) на паперы, з пуду . . | 1 | 25 |
| | б) на тканіны, з пуду . . | 2 | 50 |
| | 5) ўсякія штучныя тачыльныя, шліхавальныя, паліравальныя і г. д. вырабы з матарьялаў, памяненых у п. п. 1, 2 і 3 гэтага (71) артыкулу, а гэтак сама спрасованыя з кварцу і крэменю: | | |
| | а) у выглядзе кругоў, дошчак, напільнікаў і г. д. з пуду . . . . . . . | 5 | — |
| | 6) фармованыя вырабы з вугля дзеля электрычнае тэхнікі, як: сьвечкі, пласьціны, цыліндры і г. д. . | безм | ытна |
| з арт. 79 | Каменны вугаль, з пуду . | — | 10 |

| Падзелы мытнага тарыфу. | Назвы тавараў. | Мыта. Руб. | Мыта. Кап. |
|---|---|---|---|
| „ „ 82 | Гарпіус або канфоня, з пуду брутто . . . . . . | — | 30 |
| з арт. 117 п. 1 | Масло бабовое, прывожваемае у Забайкальле, з пуду брутто . . . . . . | — | 20 |
| „ „ 139 | Чыгун у штыках (сьвінках) ломе і струшках, з пуду | — | 20 |
| „ „ 140 | Зялеза і сталь усялякія, акрымя асобна названых: | | |
| | 1) бальванка вылітая і зялеза у крыцах, зялезны і стальны лом, абцісьненая бальванка даўжынею ня больш 2-х мэтраў, квадратнага і прамаугольнага сячэньня, з закругленымі берагамі, пры таўшчыні ня меньш 50 мілімэтраў з пуду . . . | — | 20 |
| з „ 142 | Фосфарысты чыгун, з утрыманьнем фосфару больш 5% і зьліткі зялеза з простымі мэталамі і мэталоідамі (ферзьліцкі), асобна не названыя у штыках, у зьлітках усялякага выгляду, у кусках і у парашку, з пуду . . | — | 20 |
| „ арт. 143 п. 1 | Вісмут у штыках, зьлітках, стружках, плітах, балванках, з пуду . . . . . . | 1 | — |
| з арт. 149 | Вырабы з медзі, медзяных зьліткаў і іншых названых у арт. 143 мэталаў і металічных зьліткаў: | | |
| п. 1 | Машынкі лямпавыя (хоця бы з зуцягненымі у іх кнотамі), прывожваемыя асобна або злучанымі з магазынамі, каліапошнія не належаць аплаце мытаю у вышэйшай велічыні, з пуду . . . . . | 9 | — |
| з арт. 154 п. 1 | Посуда бляшаная эмаліраваная, з пуду . . . . . | 3 | — |
| арт. 155 | Дрот, хоць бы фігурных профіляў: | | |
| п. 1 | зялезны і сталевы: | | |
| | а) пры шырыні або дыамэтру ад 6,25 да 1 мілімэтру уключна, з пуду | — | 80 |
| | б) таней 1 мілімэтру да 0,5 міл. уключна, з пуду | 1 | 05 |
| | в) таней 0,5 міл. да 0,3 міл. уключна, з пуду . . . . | 1 | 55 |
| | г) таней 0,3 міл., з пуду . | 2 | 25 |
| п. 2 | Медзяная з медзяных зьліткаў і з усялякіх названых у арт. 143 мэталаў і мэталічных зьліткаў: | | |
| | а) пры шырыні або дыамэтру ад 12,5 міл. да 0,5 міл уключна, з пуду | 1 | 50 |
| | б) таней 0,5 міл., з пуду . | 3 | 50 |
| арт. 156 | Драцяныя вырабы: | | |
| п. 1 | Зялезныя і сталевыя: | | |
| | а) усялякія, акрамя асобна названых, з пуду . . . | 3 | — |
| | б) дрот зялезны і сталевы (хоць бы луджэны і крыты цынаю). абцягнены валакністымі матарьяламі і гумаю, канаты і тросы драцяныя, зялезныя і сталевыя: | | |
| | α) ня маючыя у сваім складзе дроту таней 1 міл., з пуду . . . . . . . . | 1 | 60 |
| | β) маючыя у сваім складзе дрот таней 1 міл., з пуду | 2 | 40 |
| п. 2 | Медзяныя, з медзяных зьліткаў і з усялякіх у арт. 143 названых мэталаў і мэталічных зьліткаў: | | |
| | а) ўсялякія, акрамя асобна названых, з пуду . . . | 5 | — |

| Подзелы мытнага тарыфу. | Назвы товараў. | Мыта. Руб. | Кап. |
|---|---|---|---|
| | б) дрот (хоць бы і у пучку або у канаце), пакрыты валакністымі матарьяламі, гумаю, каучукам або іншымі простымі матерьялямі, пры шырыні або дыамэтру асобных дротаў: | | |
| | *а*) да 0,5 мілімэтра уключна, з пуду . . . . . . . . | 8 | 20 |
| п. 3 | Электрычныя кабэлі ўсялякія, з пуду . . . . . . | 1 | 60 |
| Арт. 158 п. 3 | Ножніцы дзеля стрыжкі авец, з пуду . . . . . | 3 | — |
| Арт. 162 | Належнасьці друкарскага набору і друкарскае працы: | | |
| п. 1 | Друкарскі шрыхт, у тым ліку віньеткі, шлякі (каймы) і г. д. з друкарскага мэталу . . . . . . . . | безм | ытна |
| п. 2 | Штэмпеля дзеля матрыц (пунсоны), лінейкі медзяныя, клішэ і ўсялякага роду належнасьці дзеля цісненьня, акрамя названых у п. п. 1 і 3 гэтага (162) артыкулу, друкарскі шрыхт, акрамя названых у п. 1 гэтага (162) артыкулу . . . . . . . . . | безм | ытна |
| Арт. 167 | Машыны і апараты з чыгуну, зялеза і сталі, поўныя і ня поўныя, зложаныя або разабраныя, часткі машынаў і апаратаў: | | |
| п. 1 | Машыны і апараты з чыгуну, зялеза і сталі, з часткамі з іншых матарьялаў або бяз іх, хоць бы з дабаўкаю медзі, медзяных зьліткаў і іншых названых у артыкуле 143 мэталаў і мэталічных зьліткаў ня больш 25% агульнае вагі машыны або апарату: | | |

| Подзелы мытнага тарыфр. | Назвы товараў. | Мыта. Руб. | Кап. |
|---|---|---|---|
| | а) усялякія, асобна не названыя . . . . . . . | безм | ытна |
| | б) цягнікі і цягнікова—вагоны, лакамабілі, трактары, паравыя каткі, паравыя машыны, дзьвігацелі, працуючня нагрэтым паветрам, дзьвігацелі унутранага згараньня і помпы і ручныя пажарныя трубы, вадзяныя турбіны, вінтавыя і дыфэрэнцыяльныя блокі дзеля падыманьня, лябедкі, данкраты, друкарскія і літаграфскія машыны дзеля друку, швейныя машыны . . . . . . . . | безм | ытна |
| п. 10 | Запасныя часткі і да мамашынаў і апаратаў, апрача асобна названых, разам з імі правожваемыя, з чугуну, зялеза і сталі, з часткамі з іншых матарьялаў або без іх, хоць бы з дабаўкаю медзі, мядзяных зьліткаў і іншых названых ў арт. 143 мэталаў і мэталічных зьліткаў ня больш 25% вагі кожпае асобнае часткі: | | |
| | а) прывожваемыя з машынамі, якія прапушчаюцца па літ. А. п. 1 гэтага (167) артыкулу . . . . | безм | ытна |
| | б) прывожваемыя з машынамі, названымі у літ. Б п. 1 гэтага (167) артыкулу . . . . . . . . | безм | ытна |
| Арт. 1 1 | Шэрсьць і пуша нячэсаная, няпрадзеная: | | |
| п. 1 | брудная . . . . . . . . | безм | ытна |
| Арт. 190 п. 1 | Канаты, вяроўкі і бічоўкі з джуту, кенафу, пянькі, лену, пяньковае або льняное паклі і іншых рась- | | |

| Подзелы мытнага тарыфу. | Назвы тавараў. | Мыта. Руб. | Кап. |
|---|---|---|---|
| | лінавых валакністых матарьялаў, названых у п. 3, арт. 179, абсмоляныя і не абсмоляпыя, вагою у 5 сажнях адзін лот і больш, з пуду . . | 2 | — |
| п. 2 | Сеці рыбалоўныя, з пуду . | 1 | 05 |
| Арт. 191 | Мяшкі джутовыя, палатняныя і з кенэфу, а гэтак сама тоўстыя, мяшочныя і ўпаковачныя тканіны з джуту і кенэфу, з пуду . | — | 40 |
| з арт. 195 | Сіты шаўковыя дзеля мліноў, з фунту . . . . . | 10 | — |
| | Прымяняць на кардону з Манголіяю (ад р. Селенгі да ст. Манжурыя) адносна мангольскіх вытвораў грунту і прамысловасьці мытны тарыф па азіяцкаму гандлю, зацьверджаны СНК 11-га красавіка 1922 г. з ніжэй паказанымі дадаткамі: | | |
| | 1) волас не у справе—арт. 45 п. 2 мытнага тарыфу па эўрапэйскаму гандлю | безм | ытна |
| | 2) кожы і шкуры, названыя у арт. 54 мытнага тарыфу па эўрапэйскаму гандлю . . . . . . . . | безм | ытна |
| | 3) шкуркі нявырабленыя — собаля, барана казы, белкі, тарабалана, сусліка, воўка і лісы (з арт. 56 мытн. тар. па эўрап. гандлю . . . . . . . . | безм | ытна |
| | 4) шэрсьць і пуша нячосаная, няпрадзеная, брудная (арт. 181 п. 1 мытн. тар. па эўрап. гандлю) . | безм | ытна |
| Арт. 3/б п. 4 | Пашырыць на дэалёка-Усходнюю Краіну мытны тарыф па адпускному гандлю, зацьверджаны СНК 6-га сакавіка 1923 г. (Зб. Уз. 1923 г., арт. 242) з ніжэйнаступнымі пераіначаньнямі: | | |
| | Ікра, адтрыманая з рыбаў чысьцяковых пародаў . | безм | ытна |
| „ 14 | Лясны тавар ва усялякіх выглядах, акрамя асовых чурак . . . . . . . . | безм | ытна |
| | Асовыя чуркі, з пуду . . | — | 1 |
| Арт. 15 п. 1 | Льняное семя . . . . . . | безм | ытна |
| | Макавае семя, з пуду . . | 1 | — |

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраўнік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распубліковала у № 204 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 11 верасьня 1923 г.

14 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**адпаведнасьці пачтова-тэлеграфнага ведамства за ўнутраныя пачтовыя адпраўкі.**

(У адмену правілаў аб адпаведнасьці пачтова-тэлеграфнага ведамству на ўнутраныя пачтовыя адпраўкі ад 23 лістападу 1921 г., і 28-га чэрвеня 1922 г., апублікаваных у (З. У за 1921 г., арт. 427 і за 1922 г., арт. 513).

1. Пачтова-тэлеграфнае ведамства адказывае перад адпраўшчыкам, калі пачтовая адпраўка сапраўды паступіла на почту пры захаваньні устаноўленых дзеля гэтага пачтовых правілаў:

а) за утрату лістоў, адкрытак, бандэроляў і пасылак вялікай сьпешнасьці, а роўна лістоў і адкрытак асобнай важнасьці;

б) за ўтрату заказных пачтовых адправак, паданых у пачтовых установах пад расьпіску (але не апушчаных у пачтовую скрынку).

в) за ўтрату, за недастаўку ўкладаньня і за псуцьцё страхавых пачтовых адправак;

г) за сумы, ўнесеныя дзеля пераводу па почце і па тэлеграфу;

д) за сумы накладных плацяжоў пасьля дачы аддзяржацелям почтовых адправак, на якія былі накладзены плацяжы.

2. Пачтовыя зборы, ўнесеныя за якія бы там ня было пачтовыя адпраўкі, грашовыя пераводы і накладныя плацяжы, пачтова-тэлеграфным ведамствам не варочаюцца. Плата ж за пераводную тэлеграму варочаецца у тых выпадках, калі яна зусім не адтрымана у месцы назначэньня або задержана ў дарозе на прадгледжаныя у тэлеграфных правілах тэрміны, або папсута на толькі, што пераведзенныя грошы не маглі быць выплачены аддзяржацелю па гэтай тэлеграме, або былі выплачаны у меньшай суме, чым належала.

3. Пад утратаю, за якую адказывае почта, разумеецца страта, кража, зьніштажэньне, выдача з почты непадлеглай асобе і наогул усякая прапажа пачтовай адпраўкі і яго укладаньня, калі яна ня была вызвана дзейнасьцю стыхіі або ваеннымі дзеямі, пад недастачай укладаньня—прапажа асобных рэчаў або часткі укладаньня і пад псуцьцём—зробленае якім-небудзь вонкавым дзеяньнем або вынікнуўшая пры прыёму, перасылцы і выдачы або дастаўцы пачтовай адпраўкі, псуцьце укладаньня, ад якога апошняе поўнасьцю або часткаю патраціла сваю каштоўнасьць (напрыклад: паломка пры крушэньні цягніку падмочка у дарозе і г. д.).

4. Пачтова-тэлеграфнае ведамства адказывае за утрату, недастачу і укладаньні і псуцьцё пачтовых адправак, зьявіўшыяся ня толькі ад дзеяньняў пачтова-тэлеграфных служачых і пастаронніх асобаў, але й выпадкова, калі гэта ня было вызвана дзеяньнем стыхіі або ваеннымі дзеямі.

5. Адпаведнасьць пачтова-тэлеграфнага ведамству зьяўляецца з часу прыёму пачтовай адпраўкі і грошаў дзеля пераводу а ў адносінах сумаў накладных плацяжоў—з часу выдачы пачтовай адпраўкі з такою выплатай і спыняецца з часу правільнай выдачы іх па назначэньню.

За неразданыя пачтовыя адпраўкі адпаведнасьць почтова-тэлеграфнага ведамству спыняецца з часу расьпячатаньня гэтых адправак у месцах канчатковага зьберагаськя.

6. Пачтова-тэлеграфнае ведамства звальняецца ад адпаведнасьці:

а) калі ўтрата або недастача ўкладаньня або шкоднасьць пачтовай адпраўкі зроблены дзеяньнямі адпраўшчыка або зьявіліся ад асобных якасьцяў перасылаўшайся рэчы, а такама ад дзеяньня стыхіі (навадненьне і г. д.) і ад ваенных дзеяньняў;

б) калі пры выдачы страхавой пачтовай адпраўкі, паданай на почту зачыненай, верх і пячатка яе будуць знойдзены па надворнаму выгляду ў цэласьці і вага адпраўкі будзе суналежаць вазе, прызначанай пры падачы яе на почту.

в) калі аддзяржацелем выдана расьпіска у прыёме пачтовае адпраўкі з почты.

7. За утрату лістоў, адкрытак, бандэроляў і пасылак (без цаны) вялікай сьпешнасьці, а роўна лістоў і адкрытак асобнай важнасьці (арт. 1 п. «а») п. т. ведамства выплачывае грашовую вознагароду у тэй жа суме, як і за заказныя адпраўкі (арт. 8), а за ўтрату, недастачу ўкладаньня і шкоднасьць іншых выглядаў пачтовых адправак вялікай сьпешнасьці—у вялічыні сумы абвешчанай каштоўнасьці на падставе арт. 9 правілаў.

8. За ўтрату заказной пачтовай адпраўкі, ў прыёме якой на почту выдана расьпіска (арт. 1, п. «б») п. т. ведамства выплачывае грашовую вознагароду у вялічыні пяці рублёў золатам па афіцыяльнаму курсу для пастановы аб выдачы вознагароды, незалежна ад сапраўднай каштоўнасьці укладаньня такой адпраўкі.

9. Вознаграда за ўтрату або папсуцьцё страхавой пачтовай адпраўкі вызначаецца суналежна абвешчанай яму каштоўнасьці, з якой быў ўзыскан страхавы збор з учотам розьніцы па афіцыяльному курсу залатога рубля для падачы пачтовай адпраўкі і дня пастановы аб выдачы вознагароды.

Пры утраце ці папсуцьцю часткі ўкладаньня вознагарода выдаецца у велічыні каштоўнасьці утрачанай ці папсутай рэчы, згодна пададзенным адпраўшчыкам довадам або, пры непадачы гэтых довадаў і у выпадку нязгоды з імі п. т. ведамства, у вялічыні розьніцы паміж сумаю абвешчанай каштоўнасьці усяе адпраўкі, вылічаемай з учотам розьніцы у курсу залатога рубля, і рыначнай каштоўнасьцю захаваўшагася укладаньня.

Увага: Пры перасылцы у страхавой пачтовай адпраўцы некалькіх рэчаў, з якіх адным была абвешчана каштоўнасьць, а іншым не, п. т. ведамства адказывае толькі за тыя, якім была обвешчана каштоўнасьць.

10. Пры пераводзе грошаў па почце і па тэлеграфу, пачтова-тэлеграфнае ведамства адказывае за правільную выдачу аддзяржацелю сумы пераводу, а пры немагчымасьці выдаць пераведзеныя грошы па назначэньню за правільную выплату іх назад падацелю у абодвух выпадках—у той суме, у якой быў надан перавод незалежна ад часу выдачы грошаў адрасату або падацелю.

11. За паштовыя адпраўленьні з накладным плацяжом пачтова-тэлеграфнае ведамства адказывае на падставе агульных правілаў, устаноўленых для таго роду пачтовых адпраўленьняў, да якога адносіцца адпраўленьне з накладным пляцяжом.

12. За накладзеныя за гэтыя адпраўкі плацяжы пачтова-тэлеграфнае ведамства адказывае у выпадку выдачы пачтовага адпраўленьня адзяржацелю бяз спагнаньня з яго сумы накладзенага на гэту адпраўку плацяжу і ў выпадку няправільнай выплаты сумы накладзенага плацяжа у абодвух выпадках—у тэй суме, з якой спагнан камісіёны збор пры падачы пачтовай адпраўкі на почту незалежна ад часу выдачы грошаў адпраўшчыку.

13. Калі няправільная выплата установамі пачтова-тэлеграфнага ведамству сумы пераводу або накладзенага плацяжа вызвана дзеяньнямі адпраўшчыка дык да гэтых апошніх выпадкаў прымяняецца агульная пастанова п. „а“, арт. 6.

На пераводы і накладныя плацяжы таксама пашыраецца пункт „в“ таго ж (6 артыкулу).

14. Пачтова-тэлеграфнае ведамства не адказывае:

а) за недастачу укладаньня і папсуцьцё лістоў, адкрытак, бандэролей і пасылах (без цаны) вялікай сьпешнасьці і лістоў і адкрытак асобнай важнасьці;

б) за недастачу ўкладаньня і папсуцьцё заказных пачтовых адправак;

в) за ўтрату, недастачу ўкладаньня і папсуцьце пасылак без цаны;

г) за ўтрату і папсуцьцё паведамленьняў аб адтрыманьні, а роўна адрэсаваных купонаў пераводных бялетаў і адрасоў да пасылак;

д) за утрату, недастачу ўкладаньня і папсуцьцё усіх простых пачтовых адправак.

15. Пачтова-тэлеграфнае ведамства не адказывае ні за якую задержку ў прыёме, перасылцы, выдачы, або дастаўцы усіх агулам пачтовых адпраўленьняў, пераводаў і накладных плацяжоў.

16. Вонках межаў, прадгледжаных папярэднімі артыкуламі, пачтова-тэлеграфнае ведамства наогул не адказывае ні за якую шкоду або убыткі, якія могуць быць пры прыёму, перасылцы, выдачы або дастаўцы пачтовых адправак пераводаў і накладных пляцяжоў.

17. Права адпраўшчыка на належачую яму ад пачтова-тэлеграфнага ведамства вознагароду за утрату, недастачу ўкладаньня і папсуцьцё пачтовых адправак і па замяшчэньню сумы грашовага пераводу або накладнога плацяжа зьберагаецца у працягу аднаго году з дня передачы пачтовай адпраўкі або грашовага пераводу.

18. Ход устаноўленага папярэднім артыкулам аднагадовага тэрміну перырываецца падачаю адпраўшчыкам, або адрасатэм як заявы аб выдачы вознагароды за пачтовую адпраўку або аб замяшчэньні грошаў, так і заявы аб адшуканьні пачтовай адпраўкі, пераводу ці накладнога плацяжу, у гэтых выпадках ход новай аднагадовай даўнасьці пачынаецца з дня дастаўкі адпраўшчыку або адрасату аб'весткі пачтова-телеграфнага ведамству аб наступіўшым загадзе водлуг заявы або аб рэзультату зробленнага водлуг заявы розыску.

19. Выдача вознагароды, а таксама замяшчэньне грошаў па пераводам і накладным плацяжам, на ўсякую суму, робяцца з дазволу начальніка подлеглага вокругу народнай сувязі водлуг месца падачы пачтовай адпраўкі, а водлуг пачтовых адправак, паданых у маскоўскім пачтамце і ў пад'уладных яму гарадзкіх пачтовых аддзяленьнях—з дазволу загадчыка маскоўскім пачтамтам.

20. Дзейнасьць артыкулаў 7, 8 і 9 гэтых правілаў пашыраецца толькі на пачтовыя адпраўкі, паданыя пасьля агалашэньня гэтых правілаў.

21. Парадак падачы заяваў аб выдачы вознагароды за пачтовыя адпраўкі, аб замяшчэньню сумы грашовага пераводу, а таксама парадак вядзеньня па гэтым заявам вызначаецца асобнай інструкцыяй НКХ, якая павінна быць выдана у 2-х тыдневы тэрмін.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распубликавана у № 178 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 10 жніуня 1923 г.

20 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 92. Аб прэміраваньні затрымацеляў кантрабандных рэчаў, перадаваемых дзяржорганам.

Дзеля разьвіцьця арт. 19 і 20 інструкцыі Савету Народных Камісараў РСФСР ад 8-га верасьня 1922 г., аб вытворчасьці мытнымі установамі продажы з таргоў рэчаў, прызнанных кантрабанднымі і канфіскаванымі (З. У. 1922 г., арт 787), дзеля перайначаньня арт. 2-га пастановы СНК РСФСР ад 14-га ліпеня 1922 г. аб прэміраваньні затрымацяляў кантрабанды (З. У. 1922 г., арт. 554) і арт. 3-га інструкцыі СНК РСФСР ад 22 верасьня 1922 г. (З. У. 1922 г., арт. 778), і ў дадатак арт. 12—15 палажэньня аб мытным абераганьні (З. У. 1922 г., арт. 734), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Сумы, належныя за канфіскаваныя і перададеныя падлягаючым ведамствам рэчы вонскага снаражэньня, броя, ўзрыўчатыя вешчэства лятацельныя апараты, а таксама за сьпірт і сьпіртовыя ніпіткі моцнасьцю звыш 20%, уносяцца у дэпазыт мытніцы не пазьней аднаго месяцу з дня перадачы і, па утрыманьні з іх у належных выпадках стратаў па перавозцы і вядзеньню справы у судзе, паступаюць поўнасьцю у прэмію затрымацеля кантрабанды.

2. Пеня, сысканая, па падставе арт. арт. 12—15 палажэньня аб мытным абераганьні ад 1-га верасьня 1922 г. (З У. 1922 г., арт. 734), разьмярковываецца наступным чынам: 50% пені адлічаецца у прэмію затрымацелям кантрабанды і 50% пені у асобны фонд мытнага упраўленьня на палепшаньне пастаноўкі справы барацьбы з кантрабандай.

3. Сумы, адлічаямыя у парадку арт. арт. 1, 2 гэтай пастановы, у прэмію, разьмярковываюцца наступным чынам: 70% выдаюцца прамым затрымацелям і 30%—косьвеным затрымацелям а ў выпадку адсутнасьці косьвеных затрымацеляў прэмія выдаецца поўнасьцю прамым затрымацелям.

4. Парадак ужываньня гэтай пастановы устанаўляецца інструкцыяй НКГС Саюзу ССР і НКЗГ.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 188 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 23 23 жніуня 1923 г.

20 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 93. Аб парадку злучэньня і разьдзяленьня прамыслова—коопэратыўных таварыстваў і саюзаў.

Дзеля разьвіцьця дэкрэту ад 7 ліпеня 1921 г. аб прамысловай коопэрацыі (З. У. 1921 г., арт. 322) і дэкрэту УЦВК і СНК ад 24/V—23 г. аб парадку спыненьня прамыслова-коопэратыўных таварыстваў і іх саюзаў («Извест. ВЦИК ад 30-га траўня 1923 г. № 117), СНК Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Злучэньне аднаго або некалькіх прамыслова-коопэратыўных таварыстваў можа рабіцца двуяка: а) праз злучэньне двух або некалькіх таварыстваў у новае т-ва на падставе новага статуту і пад новай назвай; (б праз

уступленьне аднаго або некалькіх таварыстваў у склад другога т-ва на падставе статуту апошняга і пад яго назваю.

2. Злучэньне таварыстваў вядзецца на падставе пастановаў агульных сходак сяброў злучаючыхся таварыстваў (або сходак упаўнаважаных, калі гэтым апошнім такое права дадзена статутамі або агульнымі сходкамі), прычым на тых жа агульных сходах павінен быць прынят і зацьверджан проэкт згоды, на падставе якога павінна зрабіцца злучэньне, і апрача таго, у выпадках, прадугаданных у п. «а» арт. 1-га, прынят і зацьверджан проэкт статуту занова утвараемага т-ва, у якое уступаюць злучаючыяся таварыствы.

Пазначаныя пастановамі агульных сходак (сходак упаўнаважаных) павінны быць прыняты пры належным кворуме і з захаваньнем правілаў, прадугаданых статутамі злучаючыхся таварыстваў дзеля спыненьня таварыстваў.

3. Пастановы аб злучэньні паведамляюцца у трохдзённы тэрмін у куст. сэкцыю мясцовага губэрск. савету народнаў гаспадаркі, публікуюцца у органу мясцовага губэрск. выканаўч. камітэту і паведамляюцца пад расьпіску усім крэдыторам злучаючыхся таварыстваў.

4. У двухмесячны тэрмін з дня публікацыі у органу мясцовага губэрск. выканаўч. камітэту пастановы агульных сходак таварыстваў аб злучэньні (арт. 3) крэдыторы злучаючыхчя таварыстваў маюць права заявіць іх кіраўніцтвам аб сваім пратэсту проціў злучэньня. Копіі пратэстаў крэдыторы абавязаны падаваць у куст-сэкцыю мясцовага губэрск. сав. народнай гаспадаркі.

5. З усімі крэдытарамі, заявіўшымі пратэсты у паказаны у арт. 4-ым тэрмін, кіраўніцтвы злучаючыхся таварыстваў ўступаюць у згоднасьць аб спосабу іх здавальненьня. Калі згода будзе, дык статут злучаючыхся таварыстваў ў выпадках, прадугаданых у п. «а» арт. 1-га, падаецца у куст-сэкцыю губэрск. савету народнай гаспадаркі дзеля рэгістрацыі, а ў выпадках, прадугаданых п. «б» арт. 1-га у куст-сэкцыю губ. сав. народнай гаспадаркі падаецца статут т-ва, у якое уступаюць іншыя таварыствы, для суналежнай адзнакі у рэестру.

6. З дня рэгістрацыі статуту т-ва, зьявіўшагася у рэзультату злучэньня, або з дня адзнакі у рэестру аб уступленьні у таварыства іншых таварыстваў, усе правы і абавязкі таварыстваў, спыняючых самастойнае істнаваньне, пераходзяць у парадку унівэрсальнай насьледнасьці—у першым выпадку да нанова утворайнага таварыства, а ў другім да т-ва, у якое ўступаюць іншыя таварыствы. Усе сябры таварыстваў, спыняючых самастойнае істнаваньне уступаюць у склад об'яднанага т-ва і нясуць адпаведнасьць, згодна яго статуту.

> Увага: Усе сябры т-ва, нязгодныя на злучэньне і заявіўшыя аб сваім выхаду з складу т-ва, нясуць поўную адпаведнасьць, згодна ранейшага статуту, за ўсе опэрацыі т-ва, у якім яны лічыліся да моманту рэгістрацыі статуту зьявіўшагася праз злучэньне т-ва або да моманту адзнакі у рэестру аб ўступленьні гэтых таварыстваў у іншае таварыства.

7. У выпадку недасягненьня паказанай у арт. 5-м згоды з крэдыторамі, пытаньне аб злучэньні таварыстваў перадаецца на разьвязаньне асобнай камісіі, якая складаецца з прадстаўнікоў па аднаму: ад прамыслово-коопэратыўнага саюзу, у районе якога знаходзяцца злучаючыяся т-вы, ад мясцовага губэрскага суду і ад куст-сэкцыі мясцовага губэрск. сав. народнай гаспадаркі. Пастановы камісіі зьяўляюцца канчатковымі.

> Увага. Калі есьць у районе дзеяльнасьць злучаючыхся т-стваў некалькіх прамыслова-коопэратыўных аб'яднаньняў вышэйшай ступені, прадстаўніцтва у камісіі адтрымовывае тое аб'яднаньне, якое на гэта упаўнаважана асяродкам прамысловай коопэрацыі.

8. З дня рэгістрацыі статуту, зьявіўшагася праз злучэньне т-стваў, зьліўшыяся т-вы спыняюць сваё асобнае істнаваньне, іх статуты лічуцца ануліраваннымі.

9. У выпадку, калі камісія прызнае немагчымым зрабіць злучэньне т-стваў, злучэньне лічыцца несастаяўшымся, аб чым кіраўніцтвы т-стваў павінны у двухтыднёвы тэрмін паведаміць куст-сэкцыю мясцовага губ. сав. народнай гаспадаркі і зрабіць публікацыю у органу мясцовага губ. выканаўч. камітэту.

10. Разьдзяленьне коопэратыўнага т-ва можа рабіцца дваяка: 1) праз падзел аднаго таварыствау на два або некалькі самастойных таварыстваў, кожнае на падставе свайго статуту і пад сваей назваю із спыненьнем падзяляемага; б) праз выдзяленьне з т-ва адной або некалькіх групаў сяброў у адно або некалька самостойных т-стваў кожнае з выдзеляючыхся на падставе новага статуту і пад новаю назваю.

11. Разьдзяленьне т-ва робіцца на падставе пастановы агульнай сходкі сяброў (або сходкі упаўнаважаных), ухваленай з захаваньнем правілаў, выкладзенных у арт. 2-ім. Адначасова з гэтым, выдзеляючыміся групамі павінны быць выпрацаваны і ухвалены проэкты статутаў нанова утвараемых таварыстваў.

12. У пастанове аб разьдзяленьні павінна быць точна паказана, якім чынам маецца зрабіцца разьдзяленьне актыва і пасыва дзелячагася т-ва паміж усімі нанова утвараемымі т-ствамі.

13. Паведамленьне пастановаў аб разьдзяленьні, публікацыя гэтых пастановаў, паведамленьне крэдытораў, прынос крэдыторамі пратэстаў проціў разьдзяленьня і згода з крэдыторамі, робіцца з захаваньцем правілаў, выкладзенных у арт. арт. 3, 4 і 5 гэтай пастановы.

14. У выпадку дасягненьня згоды дзелячагася т-ва з крэдыторамі аб спосабу іх здавальненьня кіраўніцтва гэтага т-ва прыводзіць у выкананьне пастанову аб разьдзяленьні, прычым сябры нанова утвараемых т-стваў павінны зараз жа падаць статуты т-стваў на рэгістрацыю, а т-ва з якога выдзеліліся іншыя таварыствы падасьць свой статут для суналежнай адзнакі у рэестру.

15. Сябры нанова утворанага праз падзел або выдзяленьні (арт. 10) т-ва адказываюць па тым толькі абставінам, якія перайшлі да яго з дня рэгістрацыі статуту утворанага праз выдзяленьне або падзел т-ва, і ў парадку статуту гэтага нанова утворанага т-ва.

16. У выпадку недасягненьня згоды дзелячагася т-ва з крэдыторамі, пытаньне аб разьдзяленьні разьвязываецца парадкам прадгледжаным арт. 7-ым, увагай да яго арт. 9-ага гэтай пастановы, прычым, калі пастанову камісіі разьдзяленьне будзе прызнана магчымым, правы і абавязкі дзелячагася т-ва пераходзяць да на-

нова утвораных т-ваў, згодна пляну падзелу, прадгледжанага у арт. 12-ым.

17. З дня рэгістрацыі статуту утворанага праз падзел арт. 10 п. «а» т-ва, дзелячаяся т-ва спыняе сваё істнаваньне і статут яго лічыцца ануліраваным.

18. Злучэньне і разьдзяленьне саюзаў прамыслова-коопэратыўных т-стваў робіцца з захаваньнем правілаў, выкладзеных у гэтай пастанове.

19. Распрацоўка падрабязнай інструкцыі па ўжываньню гэтай пастановы ускладаецца на ВСНГ.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

Рапублікавана у № 188 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 23 жніўня 1923 г.

24 га ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 94. Аб паданьні ЦК Вынікаў голаду права рэалізацыі ануліраваных грашовых знакаў.

Дзеля мэты папаўненьня сродкаў на ліквідацыю вынікаў голаду й на палепшаньне жыцьця дзяцей Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Вылучыць з дзяржаўных запасаў вядомы фонд ануліраваных грашовых знакаў і бонаў, выданых цэнтральнай і мяйсцовымі ўладамі, банкамі, коопэратывамі, прадпрыемствамі й прыватнымі асобамі, а так сама белагвардзейскімі ўрадамі часу грамадзянскай вайны, гарадзкімі й земскімі управамі, падаўшы ЦК вынікаў голаду права умаўляцца з НКГС аб колькасьці й умовах аплаты і адтрыманьня гэнага фонду.

2. Даручыць ЦК вынікаў голаду, разам з гэтым, арганізаваць усюды збор ахвяраваньняў і дармавых адтрыманьняў ануліраванага й боннага матар'ялу для складаньня колекцыяў ад прыватных асоб, коопэрацыйных і грамадзянскіх арганізацыяў.

3. Падаць ЦК вынікаў голаду выключнае права на дастасаваньне ў ліквідны выгляд і рэалізаваньне, дзеля паказанай мэты, ануліраванага грашовага й боннага матар'ялу. Устанавіць для паасобных колекцыонэраў, пры абмене з заграніцай адзінковымі экзэмплярамі, адумысловы збор, памерам да 2-х процантаў вартасьці ўложанага водлуг ацэнкі экспортнага бюро, абплачваемай шляхам наклейкі асаблівых кантрольна-дазволавых марак, якія выдаюцца ЦК вынікаў голаду.

4. Абавязаць ЦК вынікаў голаду, водлуг згоды з НКГС, НКЗГ, НКПТ, НКУС і ДПУ, распрацаваць адпаведную інструкцыю й падбаць аб хутчэйшым ажыцьцяўленьні гэтае **пастановы:**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Рапублікавана у № 177 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 13 жніўня 1923 г.

31 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 95. Аб зьніжэньні акладаў параўнаўчага збору дзеля гандлёвых прадпрыемстваў, павялічываючых свой таваразварот.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Устанавіць зьніжэньне акладаў параўнаўчага збору дзеля дзяржаўных, коопэратыўных і прыватных гандлёвых прадпрыемстваў, рэальныя звароты якіх водлуг прадажы тавараў за чверць году непасрэдна папярэджаючую акладной, павялічыліся па раўнаваньню з папярэдняй чверцьцю году больш чым на 25%.

2. Вялічыня зьніжэньня устанаўляецца НКГС (арт. 3), з тым, каб скідка ня перавышала 25% акладу параўнаўчага збору.

3. НКГС даручаецца прызначыць катэгорыі гандлёвых прадпрыемстваў, на якія пашыраецца гэта пастанова, устанавіць тэрмін ўвядзеньня яе у дзейнасьць і выдаць падрабязныя правілы па яе ужываньню.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Нам. Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Флаксэрман.**

Рапублікавана у № 191 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 26 жніўня 1923 г.

3 жніўня 1923 г.
Масква Крэмль.

---

## 96. Аб парадку спагнаньня адзінага сельска гаспадарчага падатку у Тургайскім павеце Кіргіскай ССР.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Пашырыць на Тургайскі павет аўтаномнай Кіргіскай ССР дзейнасьць пастановы Савету Народных Камісараў РСФСР ад 26-га чэрвеня 1923 г.—аб парадку спагнаньня адзінага сельска-гаспадарчага падатку у Мангола-Бурацкай, Ойрацкай Калмыцкай, Кабардзінскай, Карачаеўскай Чэчэнскай, аўтаномных краінах, Дагестанскай, Горскай і Якуцкай рэспубліках, а таксама у Букееўскай губэрні і Адаеўскім павеце Кіргіскай рэспублікі («Известія ВЦИК» ад 4-га ліпеня 1923 г.).

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Рапублікавана у № 188 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 23 жніўня 1923 г.

3 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 97. Аб устанаўленьні пасады агентаў НКГС закардонам.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

I. Прызнаць неабходным устанаўленьне пасадаў агента НКГС закардонам і яго намесьніка, з тым каб НКГС устанавіў бліжэйшыя тэрміны устанаўленьня гэтых пасадаў.

II. Да абавязкаў агента НКГС і яго намесьніка аднесьці:

а) нагляд за правільнасьцю разьліку і сваечасовасьцю аддачы гандлёвымі прадстаўніцтвамі на бягучы рахунак агентуры дзяржаўнага банку ў Бэрліне або падлеглага корэспандэнта дзяржаўнага банку усіх наступных у дзяржаўны валютны фонд адлічэньняў ад экспартнай выручкі (паст. СНК ад 21 сакавіка 1922 г.—З. У. 1922 г., арт. 289);

б) нагляд за сваечасовай аддачай усімі установамі РСФСР закардонам на бягучыя рахункі карэспадэнтаў з аднаго месца з імі дзяржаўнага банку усіх, паступаючых да іх дзяржаўных прыбыткаў, і набораў;

в) нагляд за точным выкананьнем пастановы СНК Саюзу ССР ад 7 жніўня 1923 г. аб парадку захаваньня замежнай валюты закардонам;

г) нагляд за растратаю сумаў валютнага фонду па прамому іх назначэньню, згодна адчыненым у ўстаноўленым парадку пазыкам;

д) сваечасовае патрабаваньне неабходных фондавых падмацаваньняў;

е) дастаўленьне НКГС усіх неабходных справаздачных довадаў аб руху дзяржаўнага валютнага фонду, аб зробленых за яго рахунак стратах і лежачых на ім абавязацельствах;

ж) пэрыодычнае даведаваньне НКГС аб становішчы грашовага і таварнага рынка, умовах крэдыту і г. п.

з) выкананьне іншых даручэньняў НКГС.

III. Крэдыты, патрэбныя на утрыманьне агентаНКГС закардонам і яго наменіка, на канцэлярскія гаспадарчыя, пачтово-тэлэграфныя і іншыя страты патрабаваць парадкам, устаноўленым дэкрэтам 10 траўня 1922 г. дзеля залатых крэдытаў.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Нам. Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Флаксэрман.**

Распублікавана у № 187 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 22 жніуня 1923 г.

7 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 98. Аб устанаўленьні ставак акцызу на табаку дзеля курэньня і папяросы мясцовай вытворчасьці:

На падставе п. 2 пастановы УЦВК і СНК ад 19 красавіка 1923 г. і п. 2 пастановы СНК Саюзу ССР ад 17 ліпеня 1923 г. Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. Устанавіць наступныя стаўкі акцызу у грашах 1923 г. на табаку дзеля курэньня і папяросы мясцовай вытворчасьці:

а) табака дзеля курэньня, але не махорка, а вышэйшага гатунку — чатырыста шэсьцьдзесят сем рублёў пяцьдзесят капеек з фунту, першага сорту—дзьвесьце семдзесят два рублі з фунту і другога сорту—сто семдзесят рублеў з фунту.

б) папяросы вышэйшага сорту—восемсот пяцьдзесят рублёў з тысячы штук, першага сорту — чатырыста пяцьдзесят дзевяць рублеў з тысячы і другога сорту—дзьвесьце трыццаць восем рублёў з тысячы.

2. Даручыць НКГС гэту пастанову зьдзейсьніць па тэлеграфу з 15 жніўня 1923 г.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 187 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 22 верасьня 1923 г.

10 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 99. Аб павялічэньні коэфіцыэнтаў дзеля транспортных тарыфаў.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. Устанавіць на тэрмін з 16-га па 31-е жніўня г.г. уключна дзеля вылічэньня платы за праезд пасажыраў па чыгункам коэфіцыэнт 120, а для вылічэньня платы за правоз багажу і грузаў па чыгункам, а таксама вялічыні дадатковых і іншых збораў, ўзысківаемых чыгункамі коэфіцыэнт 160.

2. Гэту пастанову увесьці у дзейнасьць па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 193 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 29 жніуня 1923 г.

20 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 100. Аб парадку патушэньня стратаў па раскватараваньню часьцей, установаў і завядзеньняў войску ДПУ.

У дадатак пастановы ЦВК і Саўнаркому Саюзу ССР ад 27 лупеня 1923 г. аб парадку патушэньня стратаў па раскватараваньню часьцей, установаў і завядзеньняў войску ваеннага і марскога ведамстваў («Изв. ЦИК Союза ССР і ВЦИК» ад 3 жніўня 1923 г.), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

А. На мясцовы бюджэт адносяцца страты па адвядзеньню памяшканьняў, а так сама страты па аплаце электрычнасьці, газу і асвятліцельных матэр'ялаў (па устаноўленым нормам), па аплаце вады, падаваемай вадападачаю, і па дастаўцы вады у выпадку адлегласьці яе крыніцы далей $^1/_4$ вярсты, а па асэнізацыі (ачысцы і вывазу бруду, а таксама сьмецьця з выграбных ямаў) дзеля ўсіх часьцей і знаходзячыхся пры іх па штатным раскладам установаў і завядзеньняў тэрыторыяльных войскаў КДПУ, прыкардонных войскаў (сухапутных і марскіх) і канвойных войскаў.

Б. Патушэньню за кошт агульнадзяржаўных сродкаў падлягае рэшта стратаў па квартэрным выгадам па пералічаным у падзеле «А» часьцям, установам і завядзеньням войскаў КДПУ, а таксама усе страты па раскватараваньню:

1. Штабу вайскаў КДПУ з усімі даданымі да яго штатнымі установамі і завядзеньнямі.
2. Акружных штабаў войскаў КДПУ з усімі даданымі да іх штатнымі установамі і завядзеньнямі.

*Нам. Старшы і СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 192 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 28 жвіуня 1923 г.

13 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

**101.** **Аб ўвядзеньні у цьвёрдых адзінках (капейках) таксаў на аплату усіх выглядаў пачтовых, тэлеграфных и радыётэлеграфных адправак і прыслугаў.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **постановіў:**
1. Ўвясьці з 20 жніўня 1923 г. прыкладаемыя пры гэтым таксы у цьвёрдых адзінках (капейках) на пачтовыя, тэлеграфныя і радыётэлеграфныя адпраўкі.
2. Перайначаньне памянёных у арт. 1 таксаў можа рабіцца толькі у законадаўчым парадку.
3. Устанаўленьне у цьвёрдых адзінках таксаў на особныя, не прадгледжаныя гэтай пастановай, прыслугі, рабімыя почтай, тэлеграфам і радыё, можа вясьціся НКХ па згодзе з НКГС.
4. Абазначэньне цьвёрдых ставак у грашах вядзецца праз памножэньне на коэфіцыэнт, вылічаемы НКГС па згодзе з НКХ на 1-е і 15-е число кожнага месяцу, у залежнасьці ад перайначэньня курсу рубля.
5. Увядзеньне у дзейнасьць гэтае пастановы па тэлеграфу ўскладаецца на НКХ.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 187 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 22 жніуня 1923 г.

26 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

**Таксы за перасылку пачтовых адправак.**

| Назвы адправак і паслуг. | Таксы у цьвердым вылічэньні. Руб. | Кап. |
|---|---|---|
| **1. Лісты.** | | |
| а) мясцовыя, за першыя 20 грамаў . . . | — | 1 |
| „ „ наступныя 20 грамаў . . | — | 2 |
| для Масквы і Петраграда: | | |
| „ „ першыя 20 грамаў . . . | — | 5 |
| „ „ наступныя 20 грамаў . . | — | 3 |
| б) з іншых мясцоў, за першыя 20 грамаў. | — | 6 |
| „ „ кожныя наступныя 20 грамаў. | — | 4 |
| в) пачтовыя карткі . . . . . . . . . | — | 4 |
| **II. Бандэрольныя адпраўкі.** | | |
| З друкованымі творамі: | | |
| б) мясцовыя, за кожныя 50 грамаў . . . | — | 1 |
| б) з іншых мясцоў таксама . . . . . . . | — | 2 |
| З дзелавымі паперамі і прыкладамі тавараў: | | |
| а) мясцовыя, за кожныя 50 грамаў . . . | — | 2 |
| б) з іншых мясцоў таксама . . . . . . . | — | 4 |
| Найменьшы вагавы збор за бандэрольныя адпраўкі. | | |
| а) з дзелавымі паперамі: | | |
| мясцовыя . . . . . . . . . . . . . | — | — |
| з іншых мясцоў . . . . . . . . . | — | 5 |
| б) з прыкладамі тавараў: | | |
| мясцовыя . . . . . . . . . . . . . | — | 4 |
| з іншых мясцоў . . . . . . . . . | — | 9 |
| Увага: Найменьшага вагавога збору за бандэрольныя адпраўкі з друкаванымі творамі не устаноўлена. | | |
| **III. Заказныя адпраўкі.** | | |
| Звыш вагавога збору па характару адправак, за заказ . . . . . . . . . | — | 6 |
| **IV. Листы з абвешчанай каштоўнасьцю.** | | |
| а) Вагавы збор па таксе для простых лістоў. | | |

| Назвы адправак і паслуг. | Таксы у цьвердым вылічэньні. Руб. | Кап. |
|---|---|---|
| б) Страхавы збор з сумы абвешчанай каштоўнасьці — 2%. | | |
| пры мінімуме . . . . . . . . . . . . | — | 20 |
| Максімум сумы абвешчанай, каштоўнасьці 50.000 руб. у цьвёрдым вылічэньні. | | |
| **V. Перавод грошаў.** | | |
| б) збор з сумы пераводу — 1%. | | |
| пры мінімуме . . . . . . . . . . . . . | — | 15 |
| б) за перавод грошай па тэлеграфу, звыш збору, паказанага у п. „а", тарыфная | | |
| плата за тэлеграму: | | |
| у 20 слоў пры пераводзе да 500 р. (у цьвёрдым вылічэньні) | | |
| у 25 слоў пры пераводзе свыш 500 р. | | |
| за тэрміновыя тэлеграфныя пераводы тарыфная плата за тэлеграму спаганяецца ў трайной вялічыні. | | |
| **VI. Пасылкі.** | | |
| а) Вагавы збор па даўжыні шляху за фунт: | | |
| да 500 вёрстаў . . . . . | — | 4 |
| ад 501 вер. „ 1000 „ . . . . . | — | 6 |
| „ 1001 „ „ 2000 „ . . . . . | — | 10 |
| „ 2001 „ „ 3000 „ . . . . . | — | 13 |
| „ 3001 „ „ 4000 „ . . . . . | — | 15 |
| „ 4001 „ „ 5000 „ . . . . . | — | 17 |
| „ 5001 „ „ 6000 „ . . . . . | — | 19 |
| звыш 6000 „ . . . . . | — | 21 |
| Мінімальны вагавы збор за пасылку . . | — | 30 |
| Увага 1: Даўжыня шляху для вызначэньня вагавога збору вылічваецца ў абшарах аднэй губэрскі — водлуг даўжыні шляху пэміж паватовымі мясцамі, а ў абшамах розных губэрняў—водлуг даўжыні шляху паміж іх губэрскімі гарадамі. | | |
| Увага. 2: Плата ў вышейпаказанай вялічыкі бярэціца з тых пасылак, якія абменьваюцца выключна паміж ляжачымі пры чыгунках п.—т. установамі (прычым за пад'ездныя сельскія перавозкі паказаны ў п. „б" дадатковы збор не бярэцца), альбо перавозяцка толькі па трактах, бяз удзелу чыгунак. | | |

| Назвы адправак і паслуг. | Таксы у цьверым вылічэньні. Руб. | Кап. |
|---|---|---|
| б) Дадатковы вагавы збор за трактавую перавозку з тых пасылак, у перавозцы якіх прымаюць удзел і чыгункі і пачтовыя тракты, за перавозку іх гужом у месца падачы альбо ў месяца назначэньня бярэцца дадатковы вагавы збор з кожнай пасылкі . . . . . . . . . . . | — | 10 |
| а колі трактавая перавозка робіцца у абодвых канцах, дык . . . . . . . . . | — | 20 |
| Плата бярэцца з адпраўляючага пры падачы пасылкі. | | |
| в) за пасылкі парціямі (звыш. трох адначасна здаваемых пасылак ад аднаго адпраўляючага аднаму адрасату здаваемых на почту у п.—т. установах, знайходзячыхся на трактах павялічыні шляху звыш 25 верстаў, ад чугуначнай станцыі, належацы за кожную пасылку вагавы збор павялічваецца на 10%. | | |
| г) Страхавы збор за каштоуныя пасылкі— з сумы заяўленай каштоўнасьці 2%. | | |
| пры мінімуме . . . . . . . . . . . | — | 20 |
| Найвышэйшая сума заяўленай каштоўнасьці — 50.000 руб. у цьвёрдым вылічэньні. | | |
| **VII. Паведамленьне абатрыманьні.** | | |
| а) за простае паведамленьне . . . . . . | — | 6 |
| б) за паведамленьне заказным парадкам . | — | 12 |
| **VIII. Адпраўкі з накладзеным плацяжом.** | | |
| Звыш усіх іншых збораў па характару адправак, яшчэ камісіённы збор вялічынею у 2% з сумы накладзенага плацяжа, пры мінімуме . . . . . . . . . . . | — | 20 |
| Найвышэйшая сума накладзенага плацажа— 50.000 руб. у цьвёрдым вылічэньні. | | |
| **IX. Даплатныя адпраўкі.** | | |
| За невыкупляныя і за выкупкныя ня паўнасьцю лісты, пачтовыя карткі і бандэролі, вынятыя з пачтовых скрынак, робіцца спагнаньне сумы, нехапаючай да поўнай вялічыкі аплаты заказной адпраўкі дадзенага характару і вагі. | | |

| Назвы адправак і паслуг. | Таксы у цьвердым вылічэньні. Руб. | Кап. |
|---|---|---|
| **Таксы за тэлеграфныя і радыётэлеграфныя адпраўкі.** | | |
| **Назовы адправак и паслуг.** | | |
| 1. Паслоўная плата за перадачу тэлеграмы: | | |
| а) мясцовых і прыгародных . . . . . . . | — | 1 |
| б) прыгародных тэрміновых . . . . . . . | — | 3 |
| в) „ сэрыі „г“ . . . . . . . | — | 4 |
| г) з іншых месцоў звычайных (дзярж. і прыватн.) . . . . . . . . . . . . . . . | — | 5 |
| д) так сама тэрміновых . . . . . . . . | — | 15 |
| е) тэрыі „г“ . . . . . . . . . . . . . . | — | 20 |
| ж) телеграмы—ліста, за палавінную паслоўную плату звычайных тэлеграм, без отрыманьня падэпешнага збору. | | |
| 2) за банкаўскія пераводныя тэлеграмы і за тэлеграмы на умойнай мове, на шыфраванай мове, а так сама за тэлеграмы з аплачанаў праверкай—плата як за належнўю звычайную і тэрміновую тэлеграму у дубальтовай вялічыкі. | | |
| 3) за тэлеграмы з копіямі—плата як за адну тэлеграму, з дадачаю да ае асабістай платы за копіі, за кожныя 100 слоў звычайных тэлеграм . . . . . . . . . | — | 25 |
| Так сама тэрміновых тэлеграм . . . . . | — | 50 |
| Лічучы няпоўныя соткі слоў за паўныя. | | |
| 4) за тэлеграмы з паведамленьнем аб атрыманьні па тэлеграфу — плата як за тэлеграму у пяць слоў звычайную, альбо водлуг жаданьня, тэрміновую; з паведамленьнем па почце—як за просты альбо заказны ліст. | | |
| 5) за цыркулярныя тэлеграмы плата бярэцца на ліку адрасоў, падлягаючых дастаўцы. Могуць быць тэрміновыя і звычайныя. | | |
| 6) звыш паслоўнай платы бярэцца адналькавая плата з кожнай тэлеграмы — падэпэшная, аднакая для усіх унутраных тэлеграм . . . . . . . . . . . . . . . | — | 15 |
| 7) за карыстаньне тэлеграфнымі дротамі для перамаўленьняў згодна паст. СНК ад 19 траўня 1923 г. | | |
| а) па дротам 1-й катэгорыі: | | |
| даўжынёю да 200 верстаў водлуг тэлефонных танаў для паміжгародных перамаўланьняў. | | |
| даўжынёю ад 200 да 600 верстаў — водлуг тых жа таксаў падвойнай вялічыні. | | |
| па дротам 2-х катэгорылў: (звыш 600 верстаў па слоука) . . . . . . . . . . | — | 15 |

| Назвы адправак і паслуг. | Таксы у цьвердым вылічэньні. Руб. | Кап. |
|---|---|---|
| 8) у выпадку затрыманьня тэлеграм, грошы за іх не варочаюцца. | | |
| 9) чарча перадачы тэлеграм па разрадам вюсь якая: | | |
| а) тэлеграмы сэрыі „г“. | | |
| б) тэлеграмы ЦВК, СНК, і СПА СССЫ, ЦБК і СНК Саюзных Рэспублік і літ. „ф“. | | |
| в) тэлеграмы наркаматоў і іншых савецкіх устаноў і тэрміновыя „СПР“. | | |
| г) тэлеграмы наркаматаў і іншых сов. устаноў звычайныя „ПР“. | | |
| д) тэлеграмы службовы Зьвязку тэрміновыя „СС“. | | |
| е) тэлеграмы службовыя Зьвязку звычайныя „С“. | | |
| ж) тэлеграмы прыватныя тэрміновыя „СРЧ“. | | |
| з) тэлеграмы Роста інфармацыйныя, цыркулярныя і агенцкія . . . . . . . . | — | 15 |
| і) тэлеграмы прыватныя звычайныя. | | |
| Увага: Тэлеграмы службовыя Зьвязку аб сапсаваньні лініі перадаюцца бяз усякай чаргі. | | |
| 10) за тэлэграмы Роста: інфармацыйныя, цыркулярныя, водлуг ліку адрасоў за слова: | | |
| звычайныя . . . . . . . . . . . . . . | — | 0,5 |
| так сама тэрміновыя . . . . . . . . . | — | 1,5 |
| агенцкія звычайныя . . . . . . . . . | — | 2,0 |
| „ тэрміновыя . . . . . . . . . | — | 6,0 |
| За тэлеграмы пляжаныя падвойная плата супроць звычайных або тэрміновых тэлеграм Роста. | | |
| Тэлеграмы Роста перадоваямыя па радыё: Цыркулярныя, інфармацыйныя: | | |
| За першы адрыс па агульнай лічбе слоў— за слова . . . . . . . . . . . . . . . | — | 4,5 |
| За наступныя адрасы: | | |
| За першую 1000 слоў . . . . . . . . . | — | 0,3 |
| За словы звыш 1000 слоў . . . . . . . | — | 0,15 |
| За тыя-ж радыётэлеграмы і адрасы выканкамаў тых месц, дзе няма органаў дрэуку: | | |
| За першую 1000 слоў . . . . . . . . . | — | 0,15 |
| За словы звыш 1000 слоў . . . . . . . | — | 0,075 |

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау РНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар РНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

[Распублікавана у № 192 „Известий ЦВК Саюзу ССР ад 28 жніуня 1923 г.

14 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

**102.** **Аб з'іначаньні арт. 3 дэкрэту аб адзіным с.-г. падатку ў районах жывёлаводных гаспадарак.**

Дзеля мэты пашырэньня гадаваньня вярблюдоў Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанавіў:**

З'іначыць арт. 3-ці дэкрэту аб адзіным—сельскагаспадарчым падатку ў районах жывёлаводных гаспадарак, падаўшы яго наступным чынам:

„За адзінку абкладваньня кочэвых (вандроўных) гаспадарак бярэцца адна галава рагатай жывёлы, да якой дараўноўваецца 1 конь, 2 мулы, 3 аслы, 5 авечак і козаў, 1 вярблюд“.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 192 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 28 жніуня 1923 г.

17 жніуня—1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**103.** **Аб звальненьні ад арэнднай платы памяшканьняў для прыёму і зьбераганьа адзінага с.-г. падатку.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

1. Пашыраючы на Нар. Кам. Грашовых Спраў і яго мяйсцовыя органы дзейнасьць пастановы УЦВК і СНК ад 5-га студзеня 1923 г. (З. У. 1923 г., арт. 32), звольніць іх ад арэнднай платы Камунальнымі аддзеламі за ўсе адмысловыя памяшканьні для прыняцьця й аховы натуральнай часткі адзінага сельска-гаспадарчага падатку, якія знаходзяцца ў беспасрэдным карыстаньн грашовых органаў.

2. Абявязаць НКГС злажыць губэрскія сьпісы мамасьцяў, якія выкарыстоўваюцца парадкам арт. 1-га, і з поглядамі мяйсцовых Экнараў падаць у месячны тэрмін ад часу агалашэньня гэтае пастановы на зацьверджаньне СПА.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 187 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 22 жніуня 1923 г.

17 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**104.** **Аб выпуску ў зварот знакаў пачтовай аплаты ў адзнаку адчыненьня Усерасійскай Сельска Гаспадарчай Выстаўкі ў Маскве.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

Выпусьціць у зварот у адзнаку адчыненьня Усерасійскай Сельска-Гаспадарчай Выстаўкі ў Маскве асаблівыя пачтовыя маркі вартасьцю ў 1 руб. з рысункам сейбіту, ў 2 руб. з рысункам жняца, ў 5 руб. з рысункам эмблемаў земляробства і ў 7 руб. з рысункам, які выяўляе агульны выгляд выстаўкі.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 191 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 26 жніуня 1923 г.

17 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**105.** **Аб звальненьні насельніцтва Аўтаномнай Чэчэнскай Краіны ад выплаты грашовай замены прац-гуж. падатку за 1922 г.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

Звольніць насельніцтва Аўтаномнай Чэчэнскай Краіны ад выплаты грашовай замены прац.-гуж. падатку за 1922 г.

*Нам. Старшыні СНК Сюозу ССР* **Л. Каменеў.**

Распублікавана у № 192 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 28 жніуня 1923 г.

17 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**107.** **Аб вызначэньні разрадаў ураджаю.**

На падставе арт. 14 дэкрэту ЎЦВК ад 10 траўня 1923 г. аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку—Савет Народных Камісараў **пастанавіў:**

Вызначыць для абкладу земляробных гаспадарак адзіным сельска-гаспадарч. падаткам ніжэйпаданыя разрады ўраджаю:

| | | |
|---|---|---|
| На Алтайшчыне | 2 | разрад. |
| „ Омшчыне | 2 | „ |
| „ Енісейшчыне | 4 | „ |
| „ Нова-Мікалаяўшчыне | 2 | „ |
| „ Томшчыне | 5 | „ |
| „ Іркутчыне | 3 | „ |
| „ Бур.-Мангольшчыне | 3 | „ |
| „ Ойратшчыне | 2 | „ |
| „ Акмолінщчыне | 1 | „ |
| „ Семіпалаччыне | 1 | „ |
| „ Кастромшчыне | 3 | „ |
| „ Яраслаўшчыне | 6 | „ |
| „ Владзіміршчыне | 6 | „ |
| „ Ніжагародчыне | 4 | „ |
| „ Петраградчыне | 4 | „ |
| „ Наўгародчыне | 4 | „ |
| „ Пскоўшчыне | 3 | „ |
| „ Чарапавеччыне | 5 | „ |
| „ Вотскай краіне | 2 | „ |
| „ Марыйскай | 2 | „ |
| „ Чувашскай | 2 | „ |
| „ Браншчыне | 5 | „ |
| „ Вятчыне | 2 | „ |
| „ Гомельшчыне | 5 | „ |
| „ Тамбоўшчыне | 4 | „ |
| „ Татарскай ССР | 2 | „ |

| | | |
|---|---|---|
| На Орэнбургшчыне | 1 | разряд |
| „ Кустанайшчыне | 1 | „ |
| „ Акцюбіншчыне | 1 | „ |
| „ Уральшчыне | 1 | „ |
| „ Букееўшчыне | 1 | „ |
| „ Смаленшчыне | 5 | „ |
| „ Вітабшчыне | 3 | „ |
| „ Валагодчыне | 4 | „ |
| „ Калужчыне | 5 | „ |
| „ Твершчыне | 5 | „ |
| „ Ів.-Вознесеншчыне | 5 | „ |
| „ Башкірскай АССР | 3 | „ |
| „ Беларускай ССР | 5 | „ |

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 191 „Известий“ ЦВК Саюза ССР ад 26 жніуня 1923 г.

21 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 106. Палажэньне аб Савеце Працы і Абароны Саюзу ССР.

1. Дзеля мэты зьдзейсьненьня госпадарчага й грашовага плянаў Союзу ССР, корэктаваньня іх у аднаведнасьці з эканамічнай і палітычнай сытуацыяй, а так сама дзеля мэты бліжэйшага кіраваньня наркоматы Саюзу ў абшары гаспадарчых мерапрыемстваў і ў абшары мерапрыемстваў водлуг абароны пры СНК Саюзу ССР утвараецца Савет Працы і Абароны Союзу ССР.

2. Старшынёю СПА зьяўляецца Старшыня СНК. Склад яго зацьвярджаецца персональна СНК.

3. У абсяг веданьня Савету Працы і Абароны ўваходзяць:

а) разгляд і практычнае зьдзейсьненьне цераз адпаведные органы гаспадарчага й грашовага плянаў Саюзу ССР;

б) разгляд пытаньняў абароны краю й прыняцьце заходаў, што тычацца палепшаньня ваеннае справы;

в) разгляд становішча розных галін народнае гаспадаркі (фінансаў, прамысловасьці, гандлю й транспарту), якія маюць агульна саюзнае значэньне й прыняцьце патрэбных заходаў для іх разьвіцьця;

г) кіраваньне наркаматамі Саюзу ССР у межах дзяржаўнае гаспадаркі й абароны Рэспублікі;

д) безпасрэднае кіраваньне эканамічнымі народамі саюзных рэспублік, Дзяржаўнай Плянавай Камісіяй, Каміт. Ўнутр. Гандлю, Вышэйшай Арбітражнай Камісіяй і іншымі пастаяннымі камісіямі СПА Саюзу ССР і разглядам іх справаздачаў;

е) зацьверджаньне статутаў трэсту агульна саюзнага значэньня й рэгуляваньне ўсіх пытаньняў, што належаць, згодна палажэньня аб дзяржаўных трэстах, да кампэтэнцыі СПА;

ж) зацьверджаньне статутаў акцыонэрных таварыстваў, якія праводзяць чыннасьць на абшары Саюзу;

з) разгляд усіх іншых пытаньняў, якія, згодна паасобных пастановаў З'ездаў Саветаў, ЎЦВК і СНК Саюзу ССР, належаць да компетэнцыі СПА ці якія Саўнарком лічыць патрэбным перадаць СПА;

і) разьвязваньне пытаньняў размяркаваньня маемасьці між паасобнымі дзяржаўнымі органамі й рэспублікамі, якія ўваходзяць у Саюз.

4. Адпаведна з паказанымі задачамі СПА выдае абавязковыя для ўсіх цэнтральных і мяйсцовых органаў улады Саюзу пастановы, загады і інструкцыі.

5. Пытаньні ў СПА Саюзу ССР могуць падавацца асобамі і ўстановамі, прадгледжанымі палажэньнем аб СНК арт. , а так сама эканамічнымі нарадамі Саюзных Рэспублік.

6. Водлуг пытаньняў, што тычацца паасобных наркаматаў Саюзу ССР, а так сама належаць да прадметаў веданьня эканамічных нарадаў Союзных Рэспублік, маюць права браць удзел на пасяджэньнях СПА Саюзу ССР прадстаўнікі адпаведных наркаматаў і паўнамоцныя прадстаўнікі Саюзных Рэспублік.

7. Усе пастановы СПА Саюзу ССР неадкладна падаюцца ў СНК Саюзу ССР, якому належыць права спыненьня й скасаваньня пастановаў СПА Саюзу ССР.

8. Пастановы СПА Саюзу ССР могуць быць обжальбаванымі ў СНК Саюзу ССР паасобнымі яго сябрамі і іншымі народнымі камісарамі Саюзу ў 3-х днёвы тэрмін і Саветамі Народных Камісараў Саюзных Рэспублік без абмяжаваньня паказанным тэрмінам. Абжальбавань не няспыняе выкананьня пастановы СПА.

9. Пастановаю СПА Саюзу ССР пры ім могуць засноўвацца камісіі водлуг адумысловых пытаньняў, як у складзе яго сяброў, так сама і іншых асобаў водлуг пастановы СПА.

10. Парадак паданьня справаў у СПА і праводжаньне іх, а так сама парадак зносін СПА з іншымі дзяржаўнымі ўстановамі Саюзу ССР, вызначаецца асобным наказам, які зацьвярджаецца СПА пасьля папярэдняга паведамленьня аб ім усіх сяброў СНК.

*Нам. Старшыня СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Горбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

Распублікавана у № 191 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 26 жніуня 1923 г.

21 жніуня—1923 г.
Масква—Крэмль.

## 108. Аб вызначэньні разрадаў ураджайнасьці для абкладу с.-г. падаткам.

На падставе арт. 14 дэкрэту ЎЦВК і СНК ад 10 траўня 1923 г. аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку (З. У. 1923 г. арт. 451) і ў згодзе з пастановаю сваей ад 7 жніўня 1923 г., аб парадку разьвязваньня пытаньняў зьвязаных з правядзеньнем адзінага с.-г. падатку («Изв. ЦИК Саюзу ССР і ВЦИК» ад 9 жніўня 1923 г.) СНК Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Вызначыць для абкладу земляробных гаспадарак адзіным с.-г. падаткам ніжэйпаданыя разрады ўраджайнасьці:

На Севера-Дзьвіншчыне . . . . . 3 разрад.
„ Разаншчыне . . . . . . . . 4 „
„ Пермшчыне . . . . . . . . 4 „
„ Чэлябіншчыне . . . . . . . 1 „
„ Тюменьшчыне . . . . . . . 4 „
„ Архангельшчыне . . . . . . 4 „
„ Маскоўшчыне. . . . . . . . 5 „
„ Карэльскай АССР . . . . . . 3 „
„ Якутскай . . . . . . . . . 4 „

На Кацярынбургшчыне . . . . . 4 разрад
„ Аўтаномнай Краіне Комі . . . 5 „

*Нам. Старшыня СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Горбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 196 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 1 верасьня 1923 г.

---

## 109. Назначэньня.

### 1.

**Аб зацьверджаньні калегіі пры народным камісару замежных справаў.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

Зацьвердзіць пры народным камісару замежных спраў калегію ў наступным складзе:

т. Ракоўскі Х. Г. нам. наркома
т. Літвінаў М. М. „ „
т. Карахан Л. М. сябра калегіі
т. Копп В. Л. „ „
т. Ротштэйн Ф А. „ „
т. Гусейнаў „ „

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

31 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распубліковала у № 181 „Известий“ ЦВК Саюза ССР ад 14 жніуня 1923 г.

### 2.

**Аб зацьверджаньні калегіі Народнага Камісарыяту почт тэлеграфаў.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

Пры наркоме т. Сьмірнове зацьвердзіць калегію НКПТ ў наступным складзе:

т. Даўгалеўскі В. С. нам. наркома
т. Любовіч А. М. „ „
т. Мусатаў А. В. сябра калегіі
т. Трафімаў К. В. „ „
т. Нікалаеў У. М. „ „

*Нам. Старшині СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*За Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Фляксэрман.**

7 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 181 „Известий“ ЦВК Саюза ССР ад 14 жніуня 1923 г.

### 3.

**Аб зацьверджаньні калегіі НК РСІ.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

Пры наркоме т. Куйбышаву зацьвердзіць калегію НК РСІ ў наступным складзе:

т. Аванэсаў В. А. 1-ы Нам. наркома
т. Кіселёў А. С. 2-гі „ „
т. Баранскі Н. Н сябра калегіі
т. Разміровіч Е. Ф. „ „
т. Манцаў В. Н. „ „
т. Чуцкаеў С. П. „ „
т. Ульлін У. У. „ „
т. Шворнік Н. М. „ „

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*За Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Фляксэрман.**

7 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 181 „Известий“ ЦВК Саюза ССР ад 14 жніуня 1923 г.

### 4.

**Аб зацьверджаньні прэзыдыуму дзяржаўнай плянавай камісіі.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанавіў:

Зацьвердзіць прэзыдыум дзяржаўнай плянавай камісіі ў наступным складзе:

т. Кржыжаноўскі Г. М. — старшыня
т. Сміглa У. Т. — нам. старшыні
т. Осадчы П. С.— „ „

**Сябры прэзыдыуму:**

т. Неопіханап .А А. (транспосэкцыя)
т. Каліньнікаў У. А. (прамысл. сэкцыя)
т. Сьмірноў В. М. (грашов.)
т. Александраў У. Г. (райанаваньне)
т. Струмілін С. Г. (эканам.—стат.)
т. Папоў П. У. (сельск.—гаспад.)

т. Коган А. Г. (энэргеціка)
т. Гораў А. А (ваеннае бюро)
т. Шульгін вуч. сэкратар, с правам рашучага голасу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Нам. Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Фляксэрман.**

7 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 181 „Известий" ЦВК Саюза ССР ад 14 жніуня 1923 г.

---

5.

**Аб зацьверджаньні калегіі народнага камісарыяту харчовых спраў.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**
Пры народных камісары т. Бруханаве зацьвердзіць калегію камісарыяту харчовых спраў Саюзу ССР ў наступным складзе:
т. Лобачаў У. С. — 1-ы нам. наркому
т. Кальмановіч М. У.— 2-гі „ „
т. Бунін—Задэ — сябра калегіі.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Нам. Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Фляксэрман.**

7 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распубликована у № 181 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 14 жніуня 1923 г.

---

6.

**Аб зацьверджаньні калегіі народнага камісарыяту шляхоў зносін.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**
Пры народным камісары т. Дзяржынскім зацьвердзіць калегію НКШЗ ў наступным складзе:
т. Серабракоў Л. П.—намесьнік наркома
т. Барысаў У. Н.— „ „ па тэх. частцы.
т. Халатаў Л. Б.— сябра калегіі
т. Межлаук В У.— „ „
т. Бернштэйн-Коган С. В. — сябра калегіі
т. Альскі А. О.— „ „
т. Грунін У. А.— „ „
т. Палуян Д. В.— „ „
т. Свердлоў В. М.— „ „

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **С. Фляксэрман.**

7 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 181 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 14 жніуня 1923 г.

---

7.

**Аб зацьверджаньні складу прэзыдыуму ВСНГ.**

Савет Народных Камісараў Союзу ССР **пастанавіў:**
Зацьвердзіць наступны склад прэзыдыуму ВСНГ Саюзу ССР:
старшыня—т. Рыкаў А. І.
нам. старшыні—т. Пятакоў.
„ „ —т. Вагданаў П. А.
сябры прэзыдыуму—т. Долгоў А. Н.
„ „ —т. Эйсмонт.
„ „ —т. Серада С. П
„ „ —т. Краснашчокаў А. М.
„ „ —т. Чубараў.
„ „ —т. Судакоў П. І.
„ „ —т. Юлін.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкретар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

21 жніуня 1923 г.
Москва—Крэмль

Распублікавана у № 193 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 29 жніуня 1923 г.

---

8.

**Аб зацьверджаньні калегіі народнага камісарыяту фінансаў.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**
Зацьвердзіць калегію народнага камісарыяту фінансаў Саюзу ССР у наступным складзе:
нарком—т. Сакольнікаў Г. Я.
намнарком—т. Владзіміраў М. К.
сябры калегіі—т.т. Шэпман А. Л., Туманов А. Г., Вайнштэйн, Прэображэнскі Е. А., Альскі, Кузнецоў.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

21 жніуня 1923 г.
Москва—Крэмль.

Распублікавана у № 192 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 29 жніуня 1923 г.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ

# Савету Працы і Абароны

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**110. Аб передачы эксплёатацыі і дабудаваньня дровалесавозных пад'ездных шляхаў з ведадньня НКШЗ у загад трэстыраванай лясной прамысловасьці.**

У дадатак да пастановы ад 9-га лістападу 1922 г. у мэтах дачы органам лясной прамысловасьці, знаходзячымся на гаспадарчым разьліку, вялікай гібкасьці да ажыцьцяўленьня перавозак сваей прадукцыі,—Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Дровалесавозныя чыгункі, пад'ездныя шляхі шырокай і вузкай калеі як эксплёатыруемыя, гэтак і будуючыяся, уступаючыя у склад галін ДУТ ВСНГ, абслугоўваючыя выключна або пераважна работу лясных трэстаў і аб'яднаньняў, знаходзячыхся на гаспадарчым разьліку, перадаюцца безнаградна ў дабудаваньне і эксплёатацыю гэтым трэстам з захаваньнем увагі да п. 3-га.

Увага. Пераважнае абслугоўваньне трэсту і аб'яднаньня вызначаецца вялічынёй удзелу зацікаўленага трэсту або аб'яднаньня ня меньш, чым у 80% агульнага грузазвароту па галіне.

2. Затраты на чыгуначную маемасьць, матар'ялы і іншыя страты на работы па дабудойцы недабудованых галін, зробленыя НКШЗ у асобе чыгуначных галін, або упраўленьняў дарогаў далучэньня галін, у выпадку, калі апошнія паступілі ад чыгун. галіны гэтым упраўленьням належаць замяшчэньню НКШЗ па курсу дня выплаты з боку лесатрэстаў і аб'яднаньняў, прынімаючых гэтыя шляхі.

Увага. Сумы, адтрымовываемыя НКШЗ паступаюць на адбудову крэдыту, з якога былі ўзяты сродкі на работы.

3. Чыгуначная маемасьць, перадаваемая лесатрэстам і аб'яднаньням ўваходзіць у склад іх аснаўнога капіталу.

Увага. Рухомы склад, рэльсы і стрэлкі з зачэпкамі, дадзеныя з фонду НКШЗ трэстам і аб'яднаньням ВСНГ і неаплачаныя імі у парадку п. 2 ня могуць быць ўнесены у аснаўны капітал трэстаў і аб'яднаняў.

4. Сьпіс галін, перадаваемых лясным трэстам і аб'яднаньням устанаўляецца камісіей з прадстаўнікоў НКШЗ і ВСНГ на парытэтных пачатках. Зьяўляючыяся разнагалосьсі разьвязываюцца СПА.

5. Зачыненьне галін і разборка шляхаў, перадаваемых арганамі ВСНГ, робіцца па папяраджаючай згодзе з цікаўленымі ведамствамі.

6. У выпадку патрэбнасьці НКШЗ мае права зрабіць да галіны, знаходзячайся у веданьні трэстаў ці аб'яднаньняў далучэньне новай галіны, прычым у такім выпадку частка галіны пераходзіць безнаградна у веданьне НКШЗ. Калі укладзеннае на гэтай часцы галіны мэталічнае верхняе будаваньне было аплачана трэстамі, аб аб'яднаньнямі, дык НКШЗ варочае апошнім роўную калькасьць мэталічнага верхняга будаваньня такога самага ці блізкага да яго тыпу або аплачывае каштоўнасьць гэтых.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Нам. Сэкратара СПА Саюзу ССР* **С. Флаксэрман.**

8 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 180 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 21 жніуня 1923 г.

---

**111. Аб з'інначэньні пастановы аб рэгістрацыі вонкахбіржавых зьдзелак дзяржаўных прадпрыемстваў і установаў.**

Дзеля перайначаньня пастановы ад 1 верасьня 1922 г. «аб рэгістрацыі вонкахбіржавых зьдзелак дзяржаўных прадпрыемстваў і установаў». (З. У. 1922 г. № 57, арт. 719) Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

п. 2 гэтае пастановы выкласьці у ніжэйнаступнай рэдакцыі:

«п. 2. Вонкахбіржавыя зьдзелкі па прадажы і куплі тавараў, зробленыя дзяржаўнымі установамі і прадпрыемствамі паміж сабой, рэгістрыруюцца прадаўцом;

памянёныя зьдзелкі дзяржаўных органаў з коопэратыўнымі і прыватнымі прадпрыемствамі і асобамі рэгістрыруюцца толькі дзяржаўнымі органамі незалежна ад таго, ці яны зьяўляюцца прадаўцамі або купцамі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Нам. Сэкратара СПА Саюзу ССР* **С. Флаксэрман.**

8 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 180 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 12 жніуня 1923 г.

---

## 112. Аб камплектаваньні тэрыторыяльных часьцей у 1923 г.

На падставе арт. 6 дэкрэту Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 8 жніўня 1923 г.. аб арганізацыі тэрыторыяльных вайскавых часьцей і правядзеньні ваеннай падгатоўкі працуючых. („Известия" ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 9/XIII—23 г.), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Уключыць у гэтым 1923 г. у склад тэрыторыяльных часьцей, фарміруемых на тэрыторыі украінскай ССР і Паўночна—Каўкаскага Ваеннаго Вокругу, грамадзян з ліку раддіўшыхся у 1900—1897 г. г., у склад часьцей, фарміруемых на астаўшайся тэрыторыі Саюзу грамадзян з ліку радзіўшыхся у 1902—1898 г. г.

2. Даць рэвалюцыйнаму ваеннаму савету Саюзу ССР права прызваць камандзерскі склад (состав), у выпадку недастачы гэтага і старэйшых узростаў.

3. Усіх залічаных ў сьпісачны склад тэрыторыяльных часьцей, прызваць у гэтым 1923 г,. за час з жніўня па сьнежань месяц уключна на вучэбныя зборы.

4. Районы фарміраваньня тэрыторыяльных часьцей, парадак занясеньня грамадзян у іх сьпісы, час і тэрміны збораў—усганавіць рэвалюцыйнаму ваеннаму Савету Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

14 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 187 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 22 жніуня 1923 г.

---

## 113. Аб тым, каб зрабіць таньней пагрузачна—разгрузачныя работы.

У мэтах каб зрабіць таньней нагрузачна—разгрузачныя работы і забясьпечыць тэрміновасьць іх выпаўненьня,—Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Прапанаваць дзяржаўнай плянавай камісіі сумесна з НКП. УВСНС і НКШЗ у тыднёвы тэрмін перагледзець стаўкі і налічэньні па аплаце пагрузачна разгрузачных работ так, каб іх зрабіць таньней і прасьцей.

2. Прапанаваць НКП даць дзяржорганам і коопэрацыі магчымасьць скарыстаць дзеля пагрузачна—разгрузачных работ безработных, зарэгістрыраваных на біржы працы, вонкаў залежнасьці і належнасьці да таго ці іншага прафсаюзу, аддаючы перавагу, пры іншых роўных умовах, безработным грузчыкам.

3. Дазволіць дяржорганам і коопэрацыі рабіць пагрузачна—разгрузачныя работы сіламі сваіх рабочых па дабравольнай з імі згодзе.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 195 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 31 жніуня 1923 г.

---

Главлит № 12726. Тираж 5000.

„Мосполиграф"—20-я типография „Крэсный Пролетарий", Пименовская, 1/16.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР

**НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ і ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.**

1. Першы з'езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача (*з дыаграмамі і статыстычнымі дёвадамі*).
2. Пастановы 1 з'езду саветаў Саюзу ССР.
3. I сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
5. Весьнік рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР (*двухтыднёвік*) *№№ 1, 2 і 3*.

**АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:**
МАСКВА—КРЭМЛЬ—ЦВК САЮЗУ ССР.
ТЭЛЕФОНЫ: Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-92.

---

ПЕРАДПЛАТА ПРЫМАЕЦЦА
ГАЛОЎНОЙ КАНТОРОЙ „ВЕСНІКУ ЎРАДУ".
МАСКВА, Цьвярская, 48.
(ГАЛОЎНАЯ КАНТОРА „ИЗВЕСТИЙ" ЦВК САЮЗУ ССР і ЎЦВК).